4 верасня 2015 | № 33 (450)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Унутраныя эмігранты сацыяльнай дзяржавы**
стар. 5

4 **КАРЦАР — ПЛАТА ЗА ПРАВА ДУШЫ АЧЫСЦІЦЦА АД ЛАГЕРНАГА ПЫЛУ**

Ігар Аліневіч распавёў, чаму ў карцары было працей, і за што яму было сорамна перад іншымі вязнямі



6 **НА ЎСХОД АД «ЛІНІІ ПАРАШЭНКІ»**

Па кароткім, але цёплым вітанні з камандзірам разведвальнай роты Дабравольчага батальёну УНСО Ігарам «Таполяй», імчымся ў ягоным франтавым джыпе скрозь блокпосты ва ўсходнім накірунку

13 **ЧАРЭ — ЖАХ ТУРКМЕНАЎ**

Амаль сем гадзін людзі пад пякучым сонцам і пільным наглядам спецслужбаў чакалі прэзідэнта. У выніку 50 чалавек страцілі прытомнасць. Трое — памерлі

14 **КРАМЫ ІГАРА ВАРАШКЕВІЧА**



Да назвы вядомага рок-гурту меў дачыненне Адам Мальдзіс. Калі было вырашана канчатковае перайсці на беларускую мову, да яго музыкі звярнуліся з просьбай тлумачэння розных словаў, сярод якіх была і «Крама»

# А што, калі не будзе «дэмакрата»?

## Апазіцыя нарэшце аб'ядналася: аб'ядналася супраць Таццяны Караткевіч



Сяргей ПУЛЬША

Паплечнікі Караткевіч па «Народным рэферэндуме» — Рух «За свабоду», — запатрабавалі незалежнай праверкі на сапраўднасць сабраных за яе подпісаў. Нават стварылі адмысловую камісію з дзеячаў апазіцыі. Але справа ў тым, што подпісы за Караткевіч пададзеныя для праверкі ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, і адклікаць іх — значыць, аўтаматычна пазбавіць Караткевіч шанцаў на рэгістрацыю кандыдаткай у прэзідэнты.

Каманда Караткевіч пагадзілася аддаць «незалежнай камісіі» копіі подпісаў у колькасці 70–80 тысяч. «Незалежная камісія» патрабуе ўсе 107.299 подпісаў. Маўляў, калі вы не зрабілі копіі ўсіх падпісных аркушаў — самі вінаватыя.

На апошнім Сойме Караткевіч адмовіла ў падтрымцы Партыя БНФ. За тое, што яна падчас збору подпісаў невыразна падтрымала каштоўнасці партыі: беларускую мову, бел-чырвона-белы сцяг, герб «Пагоню», і інш. Хаця бел-чырвона-белы сцяг лунаў над усімі пікетамі па зборы подпісаў за Караткевіч. Асабліва на фінальным пікеце, дзе гэтых сцягоў было з паўсотні.

Адзін з лідараў «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч нават заявіў, што апошнім часам арганізацыя змагалася не столькі з Лукашэнкам, колькі супраць Таццяны.

На думку амаль усіх апазіцыйных палітыкаў, Караткевіч павінна зняцца з прэзідэнцкай гонкі. Маўляў, калі на выбарах не будзе дэмакратычнага кандыдата, гэта ледзьве не аўтаматам азначае «нелегітымнасць Лукашэнкі» і непрызнанне вынікаў выбараў з боку міжнароднай супольнасці.

Але ці сапраўды гэта так? Давайце ўявім, што няма на выбарах Таццяны Караткевіч. Яна знялася па ўласным жаданні.

Ужо неаднаразова казалася, што Захад успрымае выбары не як дзень галасавання, а як працэс. Гэта тычыцца не толькі ўлады, але і апазіцыі. Прынамсі, маніторынгавая група БДІПЧ АБСЕ на сваёй першай жа прэс-канферэнцыі заўважыла: яны будуць кантактаваць з усімі ўдзельнікамі выбарчага працэсу.

Калі дэмакратаў у працэсе няма — з кім ім кантактаваць?

Канешне, зараз нашы замежныя сябры фіксуюць непразрыстае стварэнне ўчастковых і тэрытарыяльных камісій, сотыя долі працэнтаў прысутнасці ў іх апазіцыі і гэтак далей. Калі Караткевіч здымецца з выбарчай гонкі "па ўласным жаданні", то і гэта будзе зафіксавана. Будзе зафіксавана, прынамсі, «адсутнасць ціску ўлады на кандыдата ў прэзідэнты», бо не ўлада ж настойвае на ейным зняцці, а калегі па апазіцыі.

Я шчыра сумняваюся, што, напрыклад, Улаховіч будзе агучваць тое, як яму не далі сустрэцца з працоўнымі калектывамі якога-небудзь МАЗа альбо «Гомсельмаша». Больш за тое, я не ўпэўнены, што той увогуле будуць спрабаваць правесці такія сустрэчы. Таксама ў мяне амаль нулявая надзея, што кандыдаты, якія застануцца, будуць патрабаваць наўпроставага эфіру па тэлебачанні, тэледэбатаў і г.д. Гэта ўсё б магла зрабіць толькі Караткевіч, якую




**З чым застануцца тыя, хто зараз пляжыць Караткевіч?**

зараз актыўна крытыкуюць яе ж калегі па апазіцыі. А так будзе зафіксаваная «адсутнасць парушэнняў» у час агітацыі.

Калі не будзе Караткевіч, не будзе каму афіцыйна заявіць пра фальсіфікацыю выбараў. Няма сумневаў у тым, што астатнія кандыдаты павіншуюць Аляксандра Рыгоравіча з «перамогай». Сяргей Гайдукевіч, напрыклад, рабіў гэта двойчы — у 2001-м і 2006-м гадах. Віктар Цярэшчанка нават лежачы ў бальніцы павіншаваў Лукашэнку з днём народзінаў. «Казак» Улаховіч неаднаразова заяўляў, што ён — не толькі за «рускі мір», але і падтрымлівае існуючую сёння палітыку, і ўвогуле, за дзейснага кіраўніка дзяржавы.

А галоўнае — не будзе каму аспрэчыць вынікі выбараў у судзе. Бо, як кажа 79-ы артыкул Выбарчага кодэкса, права абскардзіць вынікі выбараў ці то ў ЦВК, ці то ў Вярхоўным судзе належыць толькі кандыдату ў прэзідэнты краіны. Не назіральнікам, не сябрам ініцыятыўных групаў, не чальцам выбарчых камісій — выключна кандыдатам у прэзідэнты.

Ці варта чакаць абскарджвання вынікаў выбараў ад Улаховіча, Гайдукевіча альбо Цярэшчанкі? Спадзявацца на гэта — аптымізм, які мяжуе з ідыятызмам.

З чым застануцца тыя, хто зараз пляжыць Караткевіч? Яны застануцца з тым, супраць чаго зараз заварылі ўсю бадзягу.

Калі вынікі выбараў не аспрэчваюцца ў судзе, а ўсе супернікі аднаго з кандыдатаў віншуюць яго з перамогай — што можа сказаць міжнародная супольнасць? Яна можа сказаць толькі тое, што «вы ўнутры Беларусі самі прызнаеце вынікі гэтых выбараў, дык чаму ж мы павінны ігнараваць выбар беларускага народа?».

Відавочна, у адсутнасці Караткевіч шанцы на прызнанне выбараў не змяншаюцца, а толькі павялічваюцца. А стратэгі «нелегітымацыі дзейнай улады» атрымліваюць роўна адваротны вынік. Ці не так?

# Наіўна думаць, што ў Беларусі пачалася лібералізацыя

Вызваленне палітвязняў нічога не мяняе ў дыктатарскай сістэме ўлады, Лукашэнка проста шукае выхад з цяжкага фінансавага становішча, лічыць кіраўнік шведскай праваабарончай арганізацыі «Östgruppen» Марцін Угла.

Па словах праваабаронцы, на самай справе выхад палітвязняў нічога не мяняе ў беларускай сітуацыі, таму што рэпрэсіўная сістэма застаецца, і ўлады могуць у любы момант пасадзіць новых палітвязняў.

Не трэба быць наіўнымі і думаць, што пачалася нейкая «лібералізацыя». Гэта крок, зроблены Аляксандрам Лукашэнкам выключна ў сваіх інтарэсах, у надзеі на тое, што Еўрасаюз аслабіць санкцыі.

Лукашэнка знаходзіцца цяпер у вельмі цяжкім становішчы, яму проста нестае грошай. І ён спрабуе знайсці выхад такім чынам.

Вельмі важна, каб Еўрасаюз запатрабаваў не толькі поўнай рэабілітацыі палітвязняў, але і сістэмных рэформаў у Беларусі. Ёсць сур'ёзныя апасенні, што Еўропа можа адказаць на гэты крок скасаваннем санкцый і аднаўленнем стасункаў з беларускім урадам. Гэта будзе вялікай памылкай, — падкрэслівае Марцін Угла

Па яго словах, трэба працягваць патрабаваць поўнай рэабілітацыі палітвязняў, сістэмных палітычных рэформаў, правядзення свабодных і празрыстых выбараў. «Таму што мы бачым, што замест выбараў адбываецца звычайны фарс, які і раней даводзілася назіраць, — лічыць праваабаронца. — Трэба патрабаваць справядлівых, законных выбараў і не прызнаваць таго, што цяпер праводзіцца ў Беларусі. Гэта самае важнае, што трэба рабіць Еўрасаюзу, каб не надаваць легітымнасці незаконнаму кіраўніку».

Па словах Марціна Углы, для беларускай апазіцыі, якая прыняла тактыку няўдзелу ў выбарах, вельмі важна падкрэсліваць прынцыповую пазіцыю: гэтыя «выбары» з'яўляюцца нелегітымнымі.

**Паводле «Хартыя–97»**

# Штраф за георгіеўскую стужку

**У Магілёве органы правапарадку аштрафавалі на 90 тысяч рублёў уладальніка аўтамабіля «Пежо–308», на шкле якога было напісана «Севастополь Донецк Луганск Одесса» і была налеплена шырокая георгіеўская стужка.**




На пачатку жніўня старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Шанцаў запатрабаваў завесці крымінальную справу ў дачыненні да ўладальніка «Пежо–308». На думку палітыка, такі пералік гарадоў паўднёвага ўсходу Украіны і георгіеўская стужка сведчаць аб падтрымцы ўладальнікам аўтамабіля сепаратызму і экстрэмізму ў сяброўскай суседняй краіне. Ён запатрабаваў, каб аўтамабіліст быў прыцягнуты да адказнасці паводле артыкула 130 КК Рэспублікі Беларусь (распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці).

«Праверку па гэтым факце правёў участковы інспектар міліцыі Ленінскага РАУС Магілёва. У выніку кіраўніцтвам РАУС прынята рашэнне аб тым, што ў дзеяннях вадзіцеля аўтамашыны «Пежо» прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 130 КК Рэспублікі Беларусь, адсутнічаюць», — паведаміў БелаПАН начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Магілёўскага аблвыканкаму Павел Смірноў.

Разам з тым у дачыненні да вадзіцеля «Пежо» складзены пратакол паводле артыкула 18.12 КаАП за парушэнне правілаў эксплуатацыі транспартнага сродку, якое выявілася ў размяшчэнні не прадугледжанай Правіламі дарожнага руху налепкі на заднім шкле аўтамабіля.

«21 жніўня ў дачыненні да кіроўцы складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні паводле ч. 3 арт. 18.12 КаАП. Ён падвергнуты спагнанню ў выглядзе штрафу ў 90 тысяч рублёў», — сказаў Смірноў.

Згодна з пунктам 194.13 Правілаў дарожнага руху, забараняецца ўдзел у дарожным руху транспартнага сродку з вонкава бачнымі налепкамі (выявамі), акрамя тых, якія размяшчаюцца ва ўстаноўленым парадку: апазнавальных знакаў транспартных сродкаў, дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху, рэкламы, інфармацыі аб прыналежнасці транспартнага сродку адпаведнай арганізацыі (індывідуальнаму прадпрымальніку).

**«Радыё Свабода»**

# Ярмошына прынесла прабачэнні Шчапёткінай

**Тамара Шчапёткіна не змагла даведацца, ці ўключана яна і іншыя сябры, накіраваныя ад партый БНФ і БСДП(Г), у склад камісій.**



Вядучы пасяджэнне выканкама па фармаванні ўчастковых выбарчых камісій начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела райвыканкама Віталь Мшар сказаў, што персанальныя спісы камісій будуць размешчаны на сайце райвыканкама і ў мясцовай газеце «Маяк».

Але 27 жніўня, на трэці дзень пасля пасяджэння, спісаў нідзе не было. Тэрмін абскарджвання ў тры дні, прадугледжаны законам, заканчваўся. У апошні дзень падачы скаргі ў суд у 9 раніцы Тамара Шчапёткіна звярнулася з электронным лістом у ЦВК, каб дапамаглі даведацца, ці ўключана яна і іншыя сябры дэмакратычных партый ва ўчастковыя камісіі. У 14 гадзін, не атрымаўшы адказу з ЦВК, яна патэлефанавала туды. Загадчыца арганізацыйна-прававога аддзела ЦВК Алена Дмухайла была вельмі здзіўленая, што на пасяджэнні не былі абмеркаваны асобы, якія ўвайшлі ў склад камісій і не названы прозвішчы. А яшчэ больш здзіўленая, што не паведамілі інфармацыю пра ўключэнне ці неўключэнне ў камісіі зацікаўленым асобам. Паабяцала разабрацца ў сітуацыі. Праз гадзіну супрацоўніца ЦВК патэлефанавала Шчапёткінай і паведаміла, што яна не ўключана ва ўчастковую камісію і можа гэта абскардзіць, калі нават яшчэ няма апублікаваных спісаў.

Пасля тэлефоннай размовы дзесьці праз паўгадзіны спісы з'явіліся на сайце райвыканкама.

Праз некалькі дзён быў атрыманы электронны ліст ад старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай з прабачэннем за непрафесійную працу выканкама. Таксама было паведамлена, што інфармацыя аб гэтым даведзена да ведама кіраўніцтва Брэсцкага аблвыканкама для прыняцця неабходных мер рэагавання. Хаця падчас суду 31 жніўня райвыканкамаўскія работнікі пра свае «непрафесійныя дзеянні» яшчэ нічога не ведалі і на ўсіх судовых працэсах па скаргах Брэсцкай абласной арганізацыі Партыі БНФ сцвярджалі, што выконваюць свае абавязкі падчас выбарчай кампаніі прафесійна.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Пенсіі — маленькі пернік электарату

Генадзь КЕСНЕР

**Ад верасня ўрад Беларусі павысіў пенсіі на 5%. Гэта, бадай, адзіны пернік, якім улада можа задобрыць электарат перад прэзідэнцкімі выбарамі.**

Зараз сярэдняя пенсія складзе амаль 2 мільёны 799 тысяч 900 рублёў (каля 162 долараў у эквіваленце). Дарэчы, на 1 жніўня на ўліку ў органах па працы, сацыяльнай занятасці і сацыяльнай абароне стаялі 2 мільёны 574 тысячы 900 пенсіянераў.

Вяртаючыся да памеру сярэдняй пенсіі, то гэта як сярэдняя тэмпература па шпіталі. Таму што ў кожнага пенсіянера велічыня пенсіі будзе залежаць ад індывідуальных параметраў, як то стаж працы, велічыня заробку да звароту па пенсію і гэтак далей. Агулам дадатковыя выдаткі на павелічэнне пенсій складуць 346 мільярдаў рублёў за месяц. Адкуль дзяржава будзе браць такія грошы?

Па словах доктара эканамічных навук, прафесара Барыса Жалібы, у Беларусі фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, з якога выплачваюцца пенсіі, ніколі не быў празрыстым. «Нядаўна чыноўніца Бачыла, якая распараджаецца гэтым фондам, заяўляла, што грошай няма. Але потым Лукашэнка сказаў, што гэтыя 5% трэба наскрэсці. Чыноўнікі атрымалі адпаведнае ўказанне, пры гэтым ім паведамілі пра адпаведныя крыніцы, дзе атрымаць гэтыя грошы. Да таго ж, наш бюджэт у цэлым непразрысты, магчыма, адтуль возьмуць яшчэ нешта», — мяркуе эканаміст. Але ён не выключае яшчэ адно выйсце: «Магчыма, зноўку ўключаць друкавальны станок, і гэта адразу ж адлюструецца на тэмпах інфляцыі».

«Гэтае павышэнне пенсій, паводле падлікаў, складзе недзе 130 тысяч беларускіх рублёў, і гэтага не заўважыць ніхто паводле цяперашніх коштаў. Іншае пытанне — менталітэт нашых пенсіянераў. Гэта пераважна людзі сталага веку, яны кансерватыўныя і баяцца ўсіх пераменаў. Яны застаюцца электаратам улады, хоць і не ўсе. Многія пад канец жыцця, аднак, пачынаюць усё разумець», — адзначае Барыс Жаліба.

Дырэктар па даследаваннях Ліберальнага клуба Яўген Прэйгерман упэўнены, што такія крокі не здымаюць балявых шокаў для людзей паважанага веку, як то дэвальвацыя, інфляцыя, якія дасягаюць памераў значна большых, чым 5%. «Але нават такое павышэнне будзе прыемным шмат каму з пенсіянераў, асабліва перад выбарамі. Чыста тэхнічна гэта можна рабіць, тым больш што ў нас апошнімі днямі выйшла статыстыка па бюджэце, які прафіцытны. Іншая справа, што прафіцыт бюджэту тлумачыцца вельмі вялікімі знешнімі выплатамі, на што і прадугледжаны гэтыя прафіцытныя сродкі. Тым не менш, нешта недзе выняць і кінуць на іншыя мэты (на пенсіі) заўжды можна», — лічыць Прэйгерман.

Па яго меркаванні, у кантэксце прэзідэнцкіх выбараў любая ўлада імкнецца найбольш стасоўчым чынам падысці да самых галоўных выбараў, падкінуўшы электарату хоць што-небудзь. Хоць і без мінулага фанатызму. «Насамрэч, сёлета ўлады паводзяць сябе вельмі стрымана. Такога імклівага павышэння даходаў насельніцтва, як гэта назіралася раней, няма, бо гэтага кіраўніцтва краіны не можа сабе дазволіць. З іншага боку, гэта і добра, калі ўлады не спрабуюць ламаць сябе і ўсю фінансавую сістэму праз калена», — упэўнены эксперт.

«Можна параўнаць сённяшнюю сітуацыю з ледзьве не з сярэдзінай 1990-х гадоў, бо мы назіраем устойлівае падзенне валавога ўнутранага прадукту бадай ці не ўпершыню з тых часоў. Сітуацыя цяжкая, усе гэта разумеюць, як разумеюць і тое, што неяк жыць трэба будзе і пасля кастрычніка. Таму, хочаш ці не, адказнасць існуе. Больш за тое, няма ніякіх прыкметаў таго, што апаненты скарыстаюцца ўзніклай сітуацыяй. Мы бачым, што апаненты ўлады слабыя, як ніколі. Больш за тое, у эканамічным плане яны нічога з сябе не ўяўляюць. Асабліва на тле ўнутраных разборак у апазіцыі ніякіх праблем для ўлады няма», — кажа суразмоўца.

Плюс, ёсць неабходнасць весці перамовы са знешнімі крэдыторамі, з тым жа Міжнародным валютным фондам, фондам стабільнасці і развіцця ЕАЭС, якія высоўваюць патрабаванні па макраэканамічнай стабілізацыі і правядзенні больш жорсткай грашова-эканамічнай палітыкі. Таму гэтыя сціплыя крокі кіраўніцтва краіны таксама ёсць стрымліваючым чыннікам, хоць ён і не прэвалюе. «Але я думаю, што гэта разумеюць і ў атачэнні Аляксандра Лукашэнкі і даводзяць да яго гэтыя рэчы, бо ўяўляюць важнасць азначаных праблем. Для МВФ і іншых фінансавых структур неабходна атрымаць знак, што не толькі ўрад Беларусі і Нацыянальны банк разумеюць важнасць гэтых праблем, але і прэзідэнт, які ўрэшце пацвердзіць сваю гатоўнасць да рэформаў», — рэзюмуе Яўген Прэйгерман.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ні пры чым

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч выправіўся з афіцыйным візітам у Кітай. Як толькі ён туды прыляцеў, індэкс Шанхайскай біржы зваліўся на 4,3%. Здавалася б, пры чым тут ён? А ён заўсёды аказваецца ні пры чым.**




Варта было Аляксандру Рыгоравічу адляцець, як пайшоў шэраг не вельмі добрых навінаў. Міністэрства фінансаў падрыхтавала праект закона «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Падатковы кодэкс Рэспублікі Беларусь». Сярод іншага ў дакуменце ёсць прапанова ўвесці павышаную стаўку падаходнага падатку ў памеры 16% для тых, у каго падатковыя органы выявяць перавышэнне выдаткаў над даходамі. Зараз з такой розніцы трэба выплачваць 13%.

Акрамя таго, грамадзяне, якія здаюць у арэнду жыллё, месцы на паркоўках або нежылыя памяшканні без заключэння дамоваў, павінны будуць выплачваць стаўку падаходнага падатку, павялічаную ў пяць разоў. Канкрэтны памер ставак у фіксаваных сумах вызначаецца абласнымі і Мінскім гарадскім саветамі дэпутатаў у залежнасці ад катэгорыі населенага пункта і раёна.

У праекце закона прапануецца абкладаць падаходным падаткам занадта азартных беларусаў. Спецыяльны пункт мяркуецца дапоўніць наступным дадаткам: «Стаўка падаходнага падатку з фізічных асоб устанаўліваецца ў памеры 4% у дачыненні да даходаў у выглядзе выйгрышаў, атрыманых фізічнымі асобамі ад арганізацый, якія ажыццяўляюць дзейнасць у сферы ігральнага бізнесу».

Па тэлевізары шмат рэкламы МНС, кшталту «зарэгіструйцеся як хатняя працаўніца, рэпетытар, рамеснік, атрымайце падатак у адну базавую!». Не будзе больш адной базавай. Стаўку збору за ажыццяўленне падобнай дзейнасці прапануецца павысіць да 4 базавых велічынь для ўсіх плацельшчыкаў, акрамя інвалідаў і тых, хто дасягнуў пенсійнага ўзросту.

Не ўпершыню, і, падобна, не ў апошні раз такія ініцыятывы агучваюцца, калі кіраўніка дзяржавы няма ў краіне. Нібыта, ён да гэтага не мае дачынення. Гэта ўсё «баяры дрэнныя», а «ён» прыедзе і адкруціць усё назад. Ці не адкруціць, калі народ гэта праглыне. Хутчэй, канешне, не адкруціць, бо казна спустошаная. І куды толькі адтуль грошы знікаюць з падаткаў: з «пенсійнага» падатку, з «вясельнага» падатку, з «аўтамабільнага» падатку...

Наш бюджэт — як прорва, колькі народ туды ні скідваецца, усё некуды знікае. Падаецца, і новых «будоўляў стагоддзя» не вядзем, і па знешніх пазыках асабліва не разлічваемся: мы ж «маскоўскія» крэдыты не аддалі, а рэструктуравалі. І знешні доўг неяк не змяншаецца, нягледзячы на тое, што мы ўсё аддалі МВФ і разлічыліся па еўрабондах.

**$6 мільярдаў долараў — на столькі знізілася валютная выручка. А валавы прадукт — на 4 працэнты**

Самае цікавае, што, па меркаванні экспертаў, напрыклад, дырэктара па даследаваннях аналітычнай суполкі «Ліберальны клуб» Яўгена Прэйгермана, новыя падаткі нічога, апроч народнай нянавісці, не выклікаюць і ніякіх праблемаў не вырашаюць. Галоўная наша праблема — гэта неканкурэнтаздольнасць нашых тавараў на замежных рынках. А зараз, з-за падзення расійскага рубля — яшчэ і дарагавізна беларускага ў асноўнага нашага пакупніка. І гэтую праблему, сапраўды, падаткамі не вырашыш. Але ўлады, па словах Прэйгермана, «думаюць толькі аб тым, як ноч прастаяць ды дзень пратрымацца».

Гэта ўсё прагнілы Захад высмоктвае з нас крoў, кажуць урадаўцы. «У сусветнай эканоміцы зараз пэўныя цяжкасці, якія не могуць не адлюстроўвацца на сітуацыі ў Беларусі», — паведаміў на гасцявым уроку «Я ў працоўныя пайду...» для навучэнцаў Мінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя № 3 машынабудавання, які прайшоў на ААТ «БелАЗ» 1 верасня ў Жодзіне, прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў.

Якія цяжкасці ў сусветнай эканоміцы — незразумела. МВФ, наадварот, ацаніў рост сусветнай эканомікі ў 2014 годзе ў 3,3%. Столькі ж чакаецца і ў гэтым годзе. Прычым, асноўную частку росту дадуць краіны, якія прынята называць «развіваючыміся» — за кошт нізкай цаны на нафту. Ці такі Кабякоў разумны, што бачыць тое, чаго не бачыць МВФ? «Калі ты такі разумны, чаму ў цябе няма грошай?» Чаму Кабякоў просіць крэдыт у МВФ, а не МВФ — у Кабякова?

Крызіс не ў сусветнай эканоміцы. Крызіс на прасторах СНД, ЕАЭС, ЕўрАзЭС, МС і ў якія мы там яшчэ «саюзы з Расіяй» уступалі. Нават ва Украіне тыя ж МВФ, Сусветны банк і рэйтынгавае агенцтва Standard&Poor's дапускаюць эканамічны рост ужо ў 4-м квартале гэтага года. І гэта пры тым, што ва Украіне ўсё яшчэ буяе вайна! А «стабільная і мірная сінявокая» ўсё коціцца ў прорву, донца якой і не бачна.

«Кожны падае індывідуальна. Мы незалежная дзяржава, у нас свой Нацыянальны банк, і таму нельга ўсё звальваць на тое, што нашы суседзі, з якімі мы цесна звязаныя, падаюць, — тлумачыць экс-кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч, — беларускі рубель падае таму, што ў нас знізілася валютная выручка на $6 мільярдаў, валавы прадукт знізіўся на 4% у параўнанні з мінулым годам, у нас высокая інфляцыя. Эканоміка краіны хворая, і таму мы падаем».

А зусім не са знешніх прычынаў. Так што трэба, можа, спачатку ў сябе разабрацца? Тым больш, што Захад, аказваецца, не такі ўжо і гнілы, як нам падавалася.

«Затое мы робім ракеты», як калісьці спяваў Уладзімір Высоцкі. Адказваючы на пытанне, ці змогуць маладыя спецыялісты, якія цяпер толькі выбіраюць рабочую прафесію, уладкавацца пасля заканчэння ліцэя на беларускія прадпрыемствы-гіганты, Кабякоў адзначыў, што «рабочыя спецыяльнасці не страцяць прэстыжнасці нягледзячы ні на што». Генеральны дырэктар БелАЗа паведаміў, што прадпрыемства прымае прыблізна 130 маладых спецыялістаў у год, і гэтая лічба не будзе змяншацца.

Шкада толькі, што ні Кабякоў, ні гендырэктар БелАЗа не агучылі адну лічбу. А менавіта — колькі будзе зарабляць там малады спецыяліст. І, пажадана, у доларах.

Дарэчы, пра долары. Пасля «чорнага» мінулага тыдня курс долара пакрысе стабілізаваўся на 17.300. Але ў сераду на гэтым тыдні зноў пачаў расці. Кажуць знаўцы, што «дна» ў беларускай эканоміцы няма, і таму гэты рост можа быць бясконцы.

Ніхто не чакаў, што такое будзе ў выбарчы год. Бо ўлада, падаецца, закопвае сама сябе. І, замест таго, каб вырашаць праблемы, яна толькі спараджае новыя.

Здавалася б, пры чым тут Лукашэнка? Ні пры чым — ён быў у Кітаі.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Васіль Жарко



**Міністр аховы здароўя паабяцаў, што платнага ўваходу ў паліклінікі не будзе.**

Але пры гэтым Жарко «паставіць рубам» пытанне аб адказнасці беларусаў за ўласнае здароўе. І, магчыма, лячыцца хворыя будуць па-за ўстановамі аховы здароўя.

У інтэрв'ю «Савецкай Беларусі» Жарко сказаў: «Як можна абмяжоўваць даступнасць амбулаторнай дапамогі? Ставіць чалавека перад выбарам: плаціць або не плаціць, калі гаворка пра здароўе і тым больш жыццё? У нас жа Канстытуцыя гарантуе бясплатнае аказанне медпамогі ў дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя. А вось пытанне аб адказнасці кожнага за сваё здароўе я б паставіў рубам».

Міністр адзначыў, што заканадаўча пытанне адказнасці за сваё здароўе вырашана ў многіх краінах, а ў Беларусі гэта хутчэй дэкларацыя, і няма выразных механізмаў рэалізацыі такой ініцыятывы. «Здароўе вельмі дорага каштуе і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Звычайны ложка-дзень у сярэднім абыходзіцца бюджэту ў 350–400 тысяч рублёў, а калі аперацыі высокатэхналагічныя, то лік ужо ідзе на дзясяткі мільёнаў рублёў!» — заявіў Жарко.

Падавалася б, усё проста. Уводзьце абавязковае медычнае страхаванне, і тады страхоўшчык усю пячонку хвораму з'есць, каб не плаціць па залішніх «страхавых выпадкі». Але мы ўсё імкнёмся ровар вынайсці.

## Віктар Цярэшчанка



**Эканаміст і прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта быў навідавоку ўвесь тыдзень.**

Цярэшчанка атруціўся маркоўным сокам у мінскай кавярні і гучна заявіў пра магчымы замах.

«Тут ёсць прысутнасць нейкай трэцяй асобы. Я схіляюся больш да знешняга следу. Беларускай уладзе гэта нявыгадна. Ёй працей мяне не зарэгістраваць. Але я лічу, што з апазіцыі я застаюся адзін. Глядзіце, што атрымліваецца, — застаюцца Улаховіч, Гайдукевіч і Караткевіч. Усе яны схіляюцца да ўладаў. Я незалежны. Значыць, мяне трэба прыбраць. Ці, прынамсі, каб я сам адмовіўся», — сказаў ён. Паводле яго слоў, гэтай «трэцяй асобай» можа быць і прадстаўнік «апазіцыі ў двукоссі».

Але ўсё ж ён вылецеў з выбарчай гонкі не з-за атруты, а з-за таго, што з 130 тысяч подпісаў у ягоную падтрымку тэрытарыяльныя камісіі прызналі сапраўднымі крыху больш за 6 тысяч.

Гэта не перашкодзіла Цярэшчанку зрабіць гучную заяву. Па ягоных словах, улады вырашылі «запалохаць яго як адзінага апазіцыйнага кандыдата».

Па ягоных словах, ён ніколі «не клікаў на плошчу, а заўсёды спрабаваў канструктыўна данесці да ўлады свае ідэі пра эканоміку». «Трэба змяніць феадальную сістэму кіравання ў краіне, куча праблем, спыняюцца прадпрыемствы, манетарная палітыка ніякая», — дадаў Цярэшчанка.

«Мяне ўжо гэта не цікавіць, я адмаўляюся ад гэтых выбараў, ад гэтага цырка. Здароўе даражэй», — заявіў прэтэндэнт на прэзідэнта.

## Марына Арзамасава



**Беларуская 27-гадовая лёгкаатлетка прынесла Беларусі золата на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы ў Пекіне.**

Арзамасава стала пераможцай першынства планеты на дыстанцыі 800 метраў.

Беларуска знаходзілася ў ліку лідараў вялікую частку дыстанцыі, а за 200 метраў да фінішу распачала атаку і адарвалася ад саперніц, здолеўшы ў выніку ўтрымаць перавагу. Арзамасава паказала час 1.58,03 секунды, апярэдзіўшы канадку Мелісу Бішап (1.58,12), якая стала другой, і вядомую кенійскую лёгкаатлетку Юніс Джэпкаеч Сум (1.58,18), што фінішавала трэцяй.

Золата Арзамасавай тым больш прыемнае, што гэта першы медаль вышэйшай пробы, заваяваны на чэмпіянатах свету беларускай зборнай па лёгкай атлетыцы за апошнія восем гадоў.

# Карцар — плата за права душы ачысціцца ад лагернага пылу

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Сустрэцца з Ігарам Аліневічам удалося не адразу — былы палітвязень з'ехаў з бацькамі на лецішча падалей ад дакучлівых журналістаў. Аднак у свой караценькі прыезд у сталіцу Ігар пагадзіўся пагутарыць і распавёў, чаму ў карцары было прасцей, і за што яму было сорамна перад іншымі вязнямі.**



Дзверы кватэры Аліневічаў у спальным раёне Мінска адчыняе высокі статны хлопец у нагавіцах ды белай кашулі. Нягледзячы на тое, што апошнія пяць гадоў Ігар правёў у няпростых турэмных умовах, з яго твару не сыходзіць ветлівая ўсмешка. Заўважаю, як спрытна былы палітвязень абыходзіцца з новым смартфонам — у 2010 годзе, калі Ігара арыштавалі, такіх тэлефонаў у Мінску былі адзінкі. Слухаўка, дарэчы, не маўчыць — падчас нашай размовы Ігару некалькі разоў тэлефануе паплечнік па анархічным руху і саўдзельнік па крымінальнай справе Мікалай Дзядок. Апошнія пяць гадоў сябры чулі адзін пра аднаго толькі з аповедаў сваякоў — паміж вязнямі забаронена перапіска, таму цяпер яны наганяюць прапушчанае.

***— Ігар, як апынулася, што вас адзінага з вызваленых у той дзень палітвязняў не сустрэлі на вакзале сваякі і паплечнікі?***

— З калоніі мяне давезлі да віцебскага аўтавакзала і павялі да аўтобуса — пакуль ён не з'ехаў, мяне з аўтобуса не выпускалі. Па дарозе я вырашыў не прасіць ні ў каго мабільны тэлефон, бо ў людзей стэрэатыпнае стаўленне да вязняў. Для абывацеля чалавек, які сядзеў, — гэта, умоўна кажучы, маральная пачвара, якая можа ўчыніць што заўгодна прама тут і цяпер. Таму я асцярагаўся неадэкватнай рэакцыі людзей. Наогул, пра сустрэчу я і не думаў, мне было важна хутчэй і без праблем дабрацца дахаты і абняць сваіх блізкіх.

***— Нягледзячы на моцны ціск, вы так і не напісалі прашэнне пра памілаванне...***

— Пачуццё ўласнага гонару не дазваляе мне звяртацца да кагосьці з просьбаю пра памілаванне. Неяк дзіўна было б у свайго непрыяцеля нешта прасіць забыць-прабачыць, гэта непаслядоўна! Змагаешся — будзь гатовы адказваць. Для мяне прашэнне пра памілаванне было б вялікім прыніжэннем. А што тычыцца ўжывання памілавання ў прымусовым парадку, дык мяне як пасадзілі прымусова, так і вызвалілі прымусова. Тут няма ніякай маёй волі і майго ўдзелу. Я ведаю, што застаўся паслядоўным і з чыстым сумленнем.

***— Калі выносілі прысуд у 8 гадоў калоніі, ці чакалі вы, што давядзецца адседзець больш за палову — цэлыя пяць гадоў?***

— Я чамусьці адразу асэнсаваў, што буду сядзець роўна пяць гадоў. Калі праваабаронцы далі нам статус «палітвязняў», я інтуітыўна зразумеў, што акрамя прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі няма значных падзеяў, калі дыпламатыя і грамадская супольнасць мае хоць нейкі ўплыў.

***— Чым адрознівалася знаходжанне ў турме і калоніі?***

— Псіхалагічна турма і лагер — гэта зусім розныя ўстановы. У калоніі мне было куды цяжэй, хаця гэта залежыць ад асобы, я чуў ад некаторых, што яны хацелі б застацца ў лагеры. Калі мяне «закрывалі» ў карцар, і я сядзеў там з іншымі людзьмі, мы вярталіся да атмасферы так званага «турэмнага брацтва». Але пасля ў зоне тыя самыя людзі зноў станавіліся больш жорсткімі. Лагер — гэта месца, у якім дзесяцігоддзямі адшліфоўваліся тэхналогіі раз'яднання людзей і прыгнечання асобы. Напрыклад, у лагеры людзі ўвесь час знаходзяцца навідавоку — такі прымусовы калектывізм. Гэта моцна ціснe на чалавека. Таму я часта з нецярплівасцю чакаў карцара, каб пабыць сам-насам са сваімі думкамі. Холад, адсутнасць спальных месцаў ды іншыя нязручнасці — гэта спецыфічная плата за права душы ачысціцца ад лагернага пылу.

***— Падчас зняволення вы шмат аналізавалі беларускую турэмную сістэму, выкладалі свае думкі ў публіцыстычных артыкулах, што перыядычна з'яўляліся ў друку.***

— Так, я сапраўды шмат думаў пра гэтае пытанне, перачытаў шмат літаратуры і прыйшоў да высновы, што лагер і турму немагчыма рэфармаваць у прынцыпе. Якія законы ні прымай, пакуль захоўваюцца стасункі ўладарання-падпарадкавання, нічога не зменіцца. Лагерная адміністрацыя заўжды знойдзе магчымасці пазбавіць вязняў іх правоў. Для таго, каб хоць неяк гуманізаваць турэмную сістэму, супрацоўнікаў адміністрацыі наогул нельга пускаць унутр калоніі. З вязнямі павінны працаваць псіхолагі, сацыяльныя супрацоўнікі, валанцёры, якія б маглі зацікавіць зэкаў новымі занятакамі, творчасцю. Для вялікай колькасці зняволеных усё жыццё складаецца з кароткіх паездак на волю і вяртання назад у лагер. Не заўсёды гэтыя людзі дрэнныя, часта на волі ў гэтых людзей няма дзе жыць, няма сваякоў і сяброў. Таму яны звяртаюцца да тых, з кім сядзелі раней, і верагоднасць таго, што іх зноўку ўцягнуць у цёмныя справы, вельмі вялікая. Калі б у лагеры чалавеку прадставілі магчымасць атрымаць прафесію, якую ён захоча, заняцца творчасцю, якая яму цікавая. У лагеры можна атрымаць прафесію, але якую — турэмшчыкі не бачаць чалавека на волі нікім, акрамя як швачкай, дрэваапрацоўшчыкам, зваршчыкам. І гэта цяпер, калі нават у нашай індустрыяльнай эканоміцы ў прамысловасці занята не больш за чвэрць насельніцтва, і далёка не ўсе гэтыя людзі з'яўляюцца рабочымі. А зэку прапануюць — пілуй дошкі і шый целагрэйкі, вось і ўсё. Чалавек жа разумее, што да яго ставяцца як да быдла, і натуральна, што адрынае ўсё гэта. Пасля лагера немагчыма трапіць у звычайнае грамадства і не адчуваць сябе адрозным ад людзей.

***— Вы былі ў калоніі ў той час, калі туды прыязджала кіраўніца «Платформы Інавэйшн» Красоўская-Каспяровіч і былы вязень Мікіта Ліхавід, пасля чаго яны агучылі скандальную інфармацыю пра паляпшэнні ў беларускіх турмах. Як праходзіў гэты візіт?***

— Па-першае, у калоніі ніхто не ведаў пра прыезд праваабаронцаў. Мы ішлі ў прамысловую зону, калі Алена Красоўская-Каспяровіч і Ліхавід праходзілі міма нас. Зэкі з ВК–10 (выпраўленчая калонія №10), якая была незадоўга да гэтага расфармаваная, і вялікая колькасць вязняў адтуль была этапаваная на «тройку», пазналі Мікіту. Былі хлопцы з аднаго з Ліхавідам атрада, якія сустракалі Мікіту, калі ён выходзіў з ШЫЗА. Сустрэча — гэта стол, гарбата, мінімальны набор гігіенічных сродкаў, мыла, крэмы, паста. Часта людзі аддаюць апошняе. Гэта такая старая арыштанцкая традыцыя, якую цяпер спрабуюць знішчыць. Да гэтых хлопцаў Ліхавід не падыходзіў, хаця ён, будучы ў «Платформе», ведаў, што многія зэкі з ВК–10 мусілі паехаць у гэтую калонію. Ён, наадварот, захутаў твар у каптур, толькі вочы было бачныя, аднак яго ўсё адно пазналі, і ўвечары ўся зона пра гэта гаманіла — маўляў, нешта тут не тое, чаму Мікіта не падышоў, чаму праваабаронцы заходзілі толькі ва ўзорныя атрады. У адным атрадзе сапраўды можа быць еўрарамонт — шклопакеты, белыя ракавіны, а ў суседнім атрадзе краны выходзяць у агульны жолаб. Хаця нават у атрадах з еўрарамонтамі цяпер, напрыклад, няма разетак у жылых памяшканнях. За гады «паляпшэнняў» (паводле Каспяровіч-Красоўскай) нават імбрыкі сталі забіраць, хаця дагэтуль імі можна было свабодна карыстацца. За пяць гадоў істотна ўзмацнілася жорсткасць у тых дробязях, якія рабілі жыццё зэка не такім суровым.

***— Што было найцяжэйшым падчас зняволення?***

— Калі стала зразумела, што, падпісаўшы памілаванне, праз пару месяцаў можна вызваліцца. Усё ж гэта было вельмі спакуслівa, асабліва ў цяжкія моманты. Аднак гэта працягнулася толькі год, пасля я ўжо выпрацаваў у сабе строгасць не спадзявацца ні на вызваленне па памілаванні, ні на вызваленне па тэрміне. Я зразумеў, што буду сядзець столькі, колькі наверсе палічаць патрэбным. Да таго часу я ўжо даведаўся пра артыкулы 410 і 411 КК, якія можна ўжыць да любога зэка і працягнуць тэрмін зняволення хоць на месяц, хоць на год. Пасля першага года адсідкі, як ні дзіўна, было цяжка асэнсоўваць грамадскую несправядлівасць — вось я «палітвязень», мяне падтрымлівае грамадскасць, а вось людзі, якія падвяргаюцца не меншаму, а тое і большаму пераследу, да іх наогул няма ніякай увагі. Калі я чытаў, што палітычных б'юць, прыгнятаюць, мне думалася: а дзе ж вы былі, калі тое самае адбывалася са звычайнымі «бытавікамі», «крымінальнікамі»? Ціск на палітычных стаў магчымым таму, што сістэма здолела адпрацаваць рэпрэсіўныя методыкі на тых людзях. Гэтая думка прыгнятала мяне ўвесь тэрмін, мне было няёмка перад іншымі людзьмі за тое, што ў СМІ з'яўлялася інфармацыя пра ціск на мяне, а тое, што на іх аказваўся такі ж ціск, нікому не было цікава.

***— Ці адчувалі вы падтрымку і салідарнасць звонку?***

— Безумоўна. Мяне падтрымлівала сям'я, сябры, паплечнікі-анархісты, праваабаронцы, агромістая колькасць не знаёмых мне людзей. Я маю на ўвазе не толькі лісты, гэтыя людзі надзялялі ўвагу маёй сям'і, сустракаліся з дыпламатамі, дапамагалі збіраць перадачы і клалі грошы на рахунак у калоніі, пісалі артыкулы ў СМІ. Экс-палітвязні з польскай «Салідарнасці», напрыклад, перадалі мне шалік. Гэта быў для мяне важны сімвал — здолелі яны, здолею і я. Усё гэта моцна згуртавала блізкіх мне людзей, і цэнтрам салідарнасці, канешне, стала мая мама. Яна сваёй харызмай змагла сабраць усіх гэтых разнастайных людзей з розных пластоў грамадства. Справа не ў тым, што мы сядзелі і выйшлі, галоўнае, што дзякуючы нашаму сядзенню пэўная частка грамадства змагла пераадолець бязвер'е ва ўласныя сілы і апатыю.

***— Што вы для сябе вынеслі з турмы?***

— У зняволенні я зразумеў, што трэба цаніць тое, што маеш, а не думаць пра тое, што магло б быць. Трэба радавацца кожнаму тэлефоннаму званку з волі, кожнай магчымасці пачытаць кніжку альбо заняцца спортам. Калі жыць так штодня і не скуліць — маўляў, раней усё было інакш, тады будзе прасцей. Таксама я зразумеў, што нельга «лячыць людзей» — не варта расказваць ім, як правільна рабіць, а трэба рабіць правільна самому. Канешне, адбылася і перакаліброўка матэрыяльных каштоўнасцяў. Што такое шмат і што такое мала ў мяне цяпер дакладна не супадае з агульнапрынятымі ацэнкамі. Цяпер я ведаю, што адна шакаладка і сто грамаў гарбаты — гэта шмат.

# Унутраныя эмігранты сацыяльнай дзяржавы

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Чаму беларускія IT-адмыслоўцы не жадаюць мець нічога агульнага са сваёй краінай?**

Апошнія сем-дзесяць гадоў працаваць у сферы IT у Беларусі лічыцца вельмі прэстыжным. Заробкі праграмістаў, вэб-распрацоўнікаў, інжынераў кампутарных сетак і адмыслоўцаў па мабільных гаджэтах нашмат перавышаюць заробкі нават у банкаўскай сферы, не гаворачы ўжо пра сярэдні заробак па краіне. Аднак прыбыткі беларускіх айцішнікаў наўпрост завязаныя на заказы з-за мяжы.

«Сёння ў IT не праблема знайсці заказы, праблема ў іншым — хто іх будзе выконваць, — неяк распавядаў журналістам намеснік дырэктара ПВТ Аляксандр Марцінкевіч. — Каля 90% праграмных прадуктаў, што распрацоўваюцца нашымі кампаніямі, пастаўляюцца на замежны рынак, а ён практычна бязмежны. Па нашых ацэнках, праграмнае забеспячэнне, якое распрацавана беларускімі праграмістамі ў ПВТ, выкарыстоўваюць каля 800 мільёнаў чалавек у 150 краінах свету. Так што патэнцыял росту нашых кампаній стрымліваецца толькі кадрамі».

А вось з кадрамі сапраўды праблема. Пасля гучнага арышту і ўзбуджэння крымінальных справаў у дачыненні вядомага беларускага IT-бізнесмэна Віктара Пракапені, надзвычайна жорсткага прысуду яго былому супрацоўніку Аляксею Камку, прыняцця закона «аб дармаедах» і спробы пазбавіць падатковых палёгкаў праграмістаў, якія працуюць у ПВТ, — пасля ўсяго гэтага беларускія IT-адмыслоўцы сталі пачувацца ва ўласнай краіне няўтульна. І калі тыя, хто працуе ў фірмах, яшчэ больш-менш упэўненыя ў заўтрашнім дні, то фрылансеры альбо рыхтуюцца з'ехаць з краіны, альбо сыходзяць ва «ўнутраную эміграцыю» — не плацяць падаткі, хаваюць прыбыткі і наогул імкнуцца, каб дзяржава іх не заўважала.

Нядаўняе апытанне, якое правёў спецыялізаваны рэсурс Dev.by, паказала: беларускія праграмісты і IT-адмыслоўцы іншых кірункаў ужо амаль сядзяць на валізках. Лічбы такія: 45,67% — не шукаюць адмыслова працу за мяжой, але гатовыя з'ехаць, калі ім прапануюць выгодны варыянт. 29,83% — мэтанакіравана шукаюць працу за межамі Беларусі, 17,15% з'язджаць не збіраюцца, а 7,34% ужо прапавалі за мяжой.

З тых, хто гатовы з'ехаць, 69,77% упадабалі Заходнюю Еўропу, 49,9% — ЗША/Канаду, 32,34% — краіны Балтыі або Польшчу, 10,16% — Азію, 5,89% — Расію, 3,47% — Украіну (рэспандэнты маглі абраць некалькі варыянтаў).

Мы пагутарылі з некалькімі беларусамі, кампетэнцыі якіх у кампутарных справах ствараюць ім на радзіме суцэльныя праблемы. Вось іх гісторыі.

**Сяргей, 35 гадоў, раней працаваў сісадмінам, цяпер — раскручвае ўласны стартап:**

— Мы з хлопцамі стварылі стартап, рэалізуем ідэю фітнес-прылады новага тыпу для смартфонаў. Пачалі ў лютым 2014-га, і тады ж атрымалі $20 тысяч «пасяўнога» фінансавання ад расійскага фундатара. Дык мы ледзь не звар'яцелі, юрыдычна афармляючы гэтыя сродкі. Зараз у нас ужо ёсць распрацаваны прататып праграмы, і нам гатовыя адкрыць фінансаванне венчурныя фундатары з Нідэрландаў і Германіі — а гэта некалькі мільёнаў долараў. Але я гляджу на тое, што адбываецца ў Беларусі, і разумею: як толькі мы даб'емся нейкага поспеху, бізнес у нас адразу адбяруць. І не факт яшчэ, што мы застанемся на волі. Як я ведаю, хлопцы, якія стварылі тут Viber, ледзь паспелі прадаць сваю кампанію японцам, у апошні момант вышлі са справы.

Так што цяпер я афармляю дакументы на адкрыццё свайго бізнесу ў Польшчы. Там вельмі добра ставяцца да IT-стартапаў і да тых, хто іх стварае. Перанясем нашу распрацоўку ў польскую фірму, атрымаем усе від на жыхарства (нас 7 чалавек), тады і будзем асвойваць фінансаванне.

**Ала, 31 год, вэб-распрацоўшчык:**

— Я праграмую рухавікі для сайтаў, у асноўным — для інтэрнэт-крамаў. Мае заказчыкі — у Еўропе, Канадзе, Ізраілі. Вядома, магла б тут уладкавацца ў адну з софтверных фірмаў у ПВТ, але гэта будзе карпаратыўная руціна, праца «на дзядзьку», якія будзе забіраць большую частку майго заробку, ды яшчэ і штрафаваць за спазненні або яшчэ за нешта. А так я працую дома, у перапынках паміж замовамі магу падарожнічаць.

> **У Маскве на фірме, дзе я працую, мае грошы складваюць «у тумбачку», а я перыядычна прыязджаю і іх адтуль забіраю**

У мяне ў банку валютны рахунак — самы звычайны разліковы рахунак. І ўсе апошнія гады я спакойна атрымлівала на яго грошы па сваіх дамовах. Аднак зараз усё змянілася, і банк паведамляе ў падатковую аб усіх паступленнях на маё імя.




Мне адтуль ужо некалькі разоў тэлефанавалі. Але я не збіраюся легалізоўвацца на ўмовах дзяржавы — для мяне гэта пытанне прынцыповае. Мабыць, проста з'еду ў Вільню — там жыццё і танней, і прыемней, і бяспечней. Увесь мой капітал — у маёй галаве і маім наўтбуку. У мяне тут няма нерухомасці або бізнесу, якія б мяне трымалі.

**Вадзім, 29 гадоў, праграміст, спецыялізацыя — бізнес-софт:**

— Я скончыў Факультэт прыкладной матэматыкі БДУ, але ўжо потым, праз пару гадоў, сам вывучыў такія мовы праграмавання, як C++, Ceylon, Ruby, Delphi. Зараз я просты кодэр, і вельмі гэтым задаволены. Працую з расійскай софтвернай кампаніяй, якая распрацоўвае праграмнае забеспячэнне для расійскіх банкаў. Гэта ніша, у якой праца ёсць заўжды. Да канца 2013 года мне пераводзілі зарплату з Масквы праз WebMoney, і ўсё было нармалёва.

Але потым падатковая пачала цікавіцца ўсімі паступленнямі праз WebMoney або «Яндекс. Деньги». Прыйшлося перастаць абналічваць грошы ў беларускіх банках. А потым пачалося гэта «змаганне з наркагандлярамі», забаранілі ананімныя інтэрнэт-плацяжы. Карацей, цяпер у Маскве на фірме мае грошы складваюць «у тумбачку», а я перыядычна прыязджаю і іх адтуль забіраю.

Пакуль я жыву досыць спакойна, кватэра мне ад бабулі дасталася. Але калі я захачу купіць машыну або, скажам, памяняць кватэру на лепшую, або адкрыць свой бізнес, — падатковая тут жа зацікавіцца, адкуль грошы. А легалізавацца мне вельмі складана.

Уявім, што я зарэгіструюся як ІП. Расейцы з пункта гледжання закона — замежнікі, нягледзячы на ўсякія ЕАЭС ды Саюзныя дзяржавы. Значыць, мне трэба афармляцца як удзельніку знешнеэканамічнай дзейнасці. І па кожнай праграме, па кожным блоку кода, які я пішу, мне трэба будзе афармляць афіцыйны кантракт. А потым афармляць яго ў падатковай, заводзіць некалькі рахункаў у банку + карт-рахунак (выдача заробленых грошай — на картку). Акрамя кантракту трэба афоміць акт выкананай працы. Кантракт трэба ў папяровым выглядзе выслаць заказчыку, той яго мусіць падпісаць і адправіць назад. Мне трэба будзе прадаць абавязковую частку валюты ў строга абмежаваны тэрмін, падаць паперы аб паходжанні сродкаў, перавесці грошы паміж рахункамі. Я буду больш часу займацца афармленнем папер і атрыманнем грошай ад заказчыка, чым напісаннем праграмнага кода. Калі ж усе паперы не аформіць правільна, мне свецяць артыкулы за атрыманне незаконных прыбыткаў і незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

Але можаце лічыць усё сказанае проста маімі фантазіямі. Таму што гэта не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю. Я ад масквічоў атрымліваю не больш двух-трох тысяч долараў у месяц, гэта невялікія для іх выплаты. Калі я папрашу іх афармляць мне ўсе неабходныя паперы, то яны, хутчэй за ўсё, проста не захочуць звязвацца з беларускай бюракратычнай машынай. Яны знойдуць фрылансера ў іншым месцы — у той жа Украіне, напрыклад.

**Крысціна, 27 гадоў, адмысловец па 3D-анімацыі:**

— Я малюю розныя дынамічныя элементы для кампутарных гульняў. І ўсе мае заказчыкі — яны ў ЗША і Еўропе (у Швецыі). Зараз атрымліваецца, што я альбо павінна рэгістравацца як ІП і афармляць знешнеэканамічную дзейнасць з вар'яцкай колькасцю папер, альбо пайду як «дармаед». І нават калі заплачу гэты «падатак на дармаедства», то да мяне ўсё роўна будуць пытанні — адкуль грошы. І магуць прыўлашчаць незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Я ж бачу, якая палітыка цяпер вядзецца.

Так што пакуль я імкнуся заставацца «чалавекам-невідзімкай». Фармальна, я выкладчык у школе на палову стаўкі. Гэта для працоўнай кніжкі, зарплаты я не атрымліваю. Дакладней, атрымлівае хтосьці за мяне. Мае заказчыкі расплачваюцца са мной праз Bitcoin. Раз у квартал я еду ў Кіеў або Варшаву і пераводжу свае біткойны ў наяўныя еўра. Там гэта ні ў каго пытанняў не выклікае.

Для лепшага разумення сітуацыі мае сэнс працытаваць выступ вядомага беларускага IT-прадпрымальніка — Юрыя Зісера, які прагучаў на адной з канферэнцый па прыцягненні ў Беларусь замежных інвестыцый.

«На адным мерапрыемстве знаёмы кіраўнік IT-кампаніі сказаў мне: «Ужо на наступны дзень пасля таго, як мы даведаліся пра арышт Пракапені, мы адкрылі фірму ў Піцеры і цяпер пераводзім усіх людзей з Беларусі туды». Вонкавыя інвестыцыі ідуць за ўнутранымі. Той жа Пракапеня год таму прыцягнуў інвестыцыі англічан пад свае асабістыя гарантыі. Пракапеня ім казаў: «Глядзіце, я жыву ў Беларусі, у мяне беларускі пашпарт, я вольна перамяшчаюся, я раблю бізнес, усё о'кей». Ну, англічане паверылі, нанялі тут сто з чымсьці чалавек, уклалі $4,7 мільёна. Па плане развіцця, яны павінны былі наняць каля тысячы праграмістаў і ўкласці каля $100 мільёнаў. І вось што атрымалася пасля арышту Пракапені. У брытанцаў — публічная кампанія. Гэта значыць, яны цяпер павінны апавясціць усіх фундатараў, што Пракапеня арыштаваны, а беларуская кампанія знаходзіцца пад старонным кантролем. Калі яны гэта зробяць, то іх акцыі на біржы апусцяцца, і яны страцяць каля мільярда долараў капіталізацыі. А калі кошт іх акцый зваліцца, яны будуць закіданы пазовамі ў суд ад акцыянераў з-за таго, што яны схавалі важную інфармацыю — гэта тыповыя паводзіны акцыянераў у такой сітуацыі. Таму ў іх застаецца адно выйсце: хутка прыкрыць беларускае падраздзяленне. А гэта мінус $95 мільёнаў інвестыцый».

TV

## 13 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.25** Іранічны дэтэктыў «Камунальны дэтэктыў» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Два бацькі і два сыны» (Расія).
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Камедыя «Выкрутасы» (Расія).
**17.25** Меладрама «Дом спячых прыгажунь» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**22.15** Клуб рэдактараў.
**22.50** Навіны надвор'я.
**23.15** Меладрама «Справы сямейныя» (Расія).
**01.00** Камедыйны серыял «Два бацькі і два сыны» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.40** Мастацкі фільм «Мы купілі заапарк».
**15.00** Тэорыя змовы.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.40** Музычны фестываль.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**23.25** Мастацкі фільм «Каханне з рызыкай для жыцця».

### СТВ

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Аўтапанарама.
**07.55** «Прэстыж».
**10.05** «Чыстая праца».
**10.50** Мінскі Polo Марафон 2015.
**11.10** «Вялікі сняданак».
**11.45** Мінскі Polo Марафон 2015.
**12.00** Культурная сталіца.
**12.15** Далёкія сваякі.
**12.30** Мінскі Polo Марафон 2015.
**12.55** Зялёны агурок.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Высокі бландын у чорным чаравіку».
**15.20** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Аўтапанарама.
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Новыя Рабінзоны».
**22.15** «Званая вячэра».
**00.00** «Высокі бландын у чорным чаравіку».
**00.35** «Таткі».
**01.30** «Масква. Дзень і ноч».

### Беларусь 2

**07.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.50** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.30** Я хачу гэта бачыць!
**11.05** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лата.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.30** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.30** Мастацкі фільм «Каратэ-пацан».
**15.00** Маст. фільм «Паляўнічыя за галовамі».
**17.00** Мастацкі фільм «Сакрэтныя матэрыялы. Хачу верыць».
**19.00** Выйграй прызы свайго пакалення.
**19.15** Суперлата.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**22.00** Спортлата 5 з 36, КЕНА.
**23.00** Хачу ў тэлевізар!
**23.05** Суперперцы.
**01.00** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Лёс рэзідэнта». Псіхалагічны дэтэктыў. Часткі 1-я і 2-я (СССР, 1970 г.).
**10.40** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Уладзімір Цвікі (Віцебск).
**11.20** «Джаз у летнюю ноч: Сяргей Манукян і ансамбль «Дыліжанс-джаз».
**12.35** «СССР - музыка пад забаронай». Аляксандр Разенбаум.
**13.00** «Наперад у мінулае».
**13.30** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.25** «Калейдаскоп».
**14.35** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял. 2-я серыя (Францыя, 1991 г.).
**16.00** «Справы фамільныя». «Сталёвыя браты». Пра развіццё металургіі на Беларусі.
**16.25** «Вялікі лес». Дакументальны фільм пра мінулае і сучаснасць лясных экасістэм Беларусі.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.05** «Аптымістычная трагедыя». Ваенная драма (СССР, 1963 г.).
**19.00** «Любыя Марыі». Меладрама (ЗША, Расія, 1984 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Песні мінулага стагоддзя».
**22.00** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял. 2-я серыя (Францыя, 1991 г.).
**23.25** «Бергман і Маньяні: вайна вулканаў». Дакументальны фільм.
**00.15** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Вольная барацьба. Чэмпіянат свету. Фіналы.
**10.35** Свет англійскай Прэм'ер-лігі.
**11.05** Біятлон. Гонка легенд.
**14.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Ліверпуль».
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Сандэрлэнд» - «Тотэнхэм». Прамая трансляцыя.
**17.25** Авертайм.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лестэр» - «Астан Віла». Прамая трансляцыя.
**20.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**20.35** Вольная барацьба. Чэмпіянат свету. Фіналы.
**23.10** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Што вывучае навука хімія?
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Мікі Моль і Страшны Плашч, анімацыйны фільм.
**08.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.05** Загадкі беларускай гісторыі: Падземнае Берасце.
**10.20** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Як вусені ператвараюцца ў матылёў?
**10.30** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.35** Мікі Моль і Страшны Плашч, анімацыйны фільм.
**11.00** Чарцюк з сёмага класу, дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял.
**11.45** Мова нанова: Вёска: ч. 2.
**12.05** 54 % (публіцыстычная праграма): 54 %.
**12.30** Джэкі без Джэка, д/ф.
**13.20** Гонар гораду. Варшаўскае паўстанне, д/ф.
**14.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.40** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.20** Форум (ток-шоу): Беларускі вакзал.
**16.10** Кузены, камедыя.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Падарожжа на Усход – з Берліну ва Уладзівасток, дак. серыял: ч. 1: З Берліну да Волгі, 2011 г., Германія.
**19.05** Невядомая Беларусь: Універсітэт Каліноўскага, д/ф.
**19.45** Сведкі: ч. 1: Каляды. Публічнае калядаванне ў савецкім Менску.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Схаванае багацце Пуціна, д/ф, 2014 г., Францыя.
**21.25** Гісторыя з каралямі, м/ф.
**23.20** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.05** Апошнія дні СССР, д/ф.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Разбурыць «мадрыцу»

Алег НОВІКАЎ

**У Барселоне патрабуюць прызнаць Калумба, Сервантэса і іншых іконаў іспанскай гісторыі і культуры этнічнымі каталонцамі.**

У жніўні ў каталонскім гарадку Манблан прайшоў кангрэс каталонскіх гісторыкаў, які арганізаваў інстытут «Nova Història». На думку арганізатараў, каталонская гістарычная супольнасць павінна была нарэшце разбурыць «мадрыцу» — кастыльскія канцэпты гісторыі. У рамках першага кроку трэба сфармуляваць, аформіць і праз афіцыйныя структуры выставіць Мадрыду жорсткае патрабаванне — прыбраць свае рукі ад постаці Хрыстафора Калумба.

Першаадкрывальнік Амерыкі, на думку тых, хто сабраўся ў Манблане, быў не іспанцам, як гаворыцца ў цяперашніх падручніках, а каталонцам. У прынцыпе, і звалі яго не Хрыстафор Калумб, а Джаан Калом (а яшчэ, дарэчы, разлічылі, што яго прапрапраўнук — цяперашні каталонскі прэм'ер Артур Мас). Больш таго — у экспедыцыю за акіян Калумба (Калома) даслаў не Мадрыд, а каталонская дзяржава. Пазней, пасля акупацыі Каталоніі ў XVI стагоддзі, у Мадрыдзе перапісалі гісторыю, адпаведна пераўтварыўшы каталонца Калома ў іспанскага марака Калумба. Рэвізія сапраўднай каталонскай гісторыі была зроблена ў рамках буйной акцыі па знішчэнні ўсёй каталонскай інтэлектуальнай і дзяржаўніцкай спадчыны, якую, быццам, замовіла іспанская карона.

Таксама ў рамках кангрэсу агучвалася тэорыя пра тое, што Калумб быў не толькі каталонцам, аднак і гомасексуалістам. Аматары гэтай версіі нейкім чынам звязваюць няміласць з боку каралеўскага двара, у якую ў выніку трапіў адмірал, з прынятым у 1497 годзе каралеўскім Актам, паводле якога геі абвяшчаліся па-за законам. Аднак, калі меркаваць па дакументах Кангрэсу, гэта версія пакуль застаецца спрэчнай.



Постаццю Калумба апетыты каталонскіх гісторыкаў-рэвізіяністаў не абмежаваліся. Па ходу мерапрыемства быў агучаны цэлы спіс вядомых іспанцаў, якія на самай справе, быццам, былі каталонцамі. Гэты пералік уключае шэраг пісьменнікаў, філосафаў, паэтаў, вайскоўцаў. Найбольш вядомы фігурант спісу — славуты Мігель дэ Сервантэс, аўтар «Дон Кіхота». Паводле каталонскіх нацыяналістаў, Сервантэс быў іх суайчыннікам і пісаў менавіта па-каталонску. Пазней арыгінальны тэкст быў знішчаны і заменены на іспанскі варыянт.

У прынцыпе, фрагментарна заклікі «каталанізаваць» Сервантэса і Калумба гучалі і раней, што заўжды выклікала сумесь смеху і шоку ў асяроддзі літаратурных экспертаў і гісторыкаў. Дастаткова прагартаць тэкст «Дон Кіхота», каб канстатаваць, што ніякай згадкі пра каталонцаў і Каталонію там няма. Праўда, на старонках «Дон Кіхота» можна сустрэць баска, з якога, аднак, усе смяюцца, паколькі яго баскскую мову ніхто не разумее.

Увогуле, казаць пра сфармаваную каталонскую свядомасць у XVI стагоддзі, калі нацый не існавала, вельмі смела для сапраўдных гісторыкаў. Не дарма адміністрацыя барселонскага ўніверсітэта, заклапочаная аўтарытэтам установы, забараніла сябрам «Nova Història» праводзіць нейкія мерапрыемствы ў памяшканнях універсітэта.

Аднак на гэты раз стаўленне да распрацовак адэптаў «Nova Història» ў грамадстве больш сур'ёзнае. Цэлы шэраг іспанскіх правых выданняў прысвяцілі свае публікацыі кангрэсу ў Манблане. Прычына такой увагі ў тым, што дыскусіі каталонскіх гісторыкаў праходзяць на фоне новай хвалі дэбатаў пра неабходнасць абвяшчэння незалежнасці Каталоніі. У такой палітычна электрызаванай атмасферы фармулёўкі ад «Nova Història», пры ўсёй арыгінальнасці, набываюць мабілізуючы характар. Асабліва гэта тычыцца моладзі, якая вельмі часта гатовая верыць усяму, што пішуць у інтэрнэце. У прэсе згадваецца тэзіс славутага гісторыка Эрыка Хобсбаўма, які адзначаў, што ля вытокаў кожнай дзяржаўнай ідэалогіі ляжалі штучна створаныя і мэтанакіравана навязаныя міфы, якія таксама спачатку праваказвалі ў сучаснікаў прыступы смеху.

Звяртаецца ўвага, што «Nova Història» — не проста інтэлектуальная гульня вар'ятаў-гісторыкаў. Генезіс групы пачынаецца яшчэ ў 1970-я гады, калі вакол леварадыкальнага нацыяналістычнага часопіса «L'Avenç» узнікла група маладых гісторыкаў, якія вырашылі «напісаць новую гісторыю Каталоніі, пры гэтым свядома ігнаруючы рацыянальны аналіз у імя стварэння новай вобразнасці». «Наша бліжэйшая і неадкладная задача — адрэагаваць на сацыяльныя патрабаванні пераходнага перыяду да незалежнасці. Для гэтага мы павінны стварыць новую канцэпцыю каталонскай гісторыі», — пісалася на старонках «L'Avenç». У 2007 годзе групоўка аформілася як інстытут.

Ініцыятыва гісторыкаў хутка знайшла патрона ў выглядзе каталонскай нацыяналістычнай партыі «Рэспубліканская Левая» (ERC), якая звычайна карыстаецца падтрымкай 10–15 працэнтаў мясцовага электарату. Не дарма канферэнцыю прымаў муніцыпалітэт Манблана, які кантралюе ERC.

Перспектывы канцэпцый «Nova Història» будуць шмат у чым залежаць ад вынікаў прызначаных на гэтую восень выбараў у каталонскі парламент. Незалежніцкія партыі (сярод якіх і ERC) у выпадку перамогі абяцаюць абвясціць дату рэферэндуму пра незалежнасць. Калі пачнецца стварэнне інстытутаў каталонскай дзяржаўнасці, некаторыя ідэі гісторыкаў з кангрэсу ў Манблане, відавочна, будуць запатрабаваныя.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Рэжым Аляксандра Лукашэнкі — фактычна толькі пераходная форма ад савецкага перыяду да перыяду пабудовы нацыянальнай дзяржавы. Задача Лукашэнкі — найменш балюча прайсці самыя складаныя часы трансфармацыі эканомікі, і для Беларусі яны ўжо пройдзеныя са значна меншымі стратамі, чым ва ўсёй постсавецкай прасторы. Прычым рэжым Лукашэнкі цалкам паспяхова выконвае задачу па нацыяналізацыі беларускай дзяржавы, якая ідзе там на ўсю моц, але вельмі разумна і мякка. (...) Існуючая паралельна ідэалогія, якую можна назваць «Савецкая Беларусь», самімі беларусамі ўспрымаецца як часовая, разлічаная на пераходны перыяд. Ён ужо блізкі да канца, і новаму пакаленню беларусаў ужо не цікавыя апавяданні пра савецкае мінулае. З наступным прэзідэнтам мы ўбачым крушэнне міфа аб сяброўскай Расіі і Беларусі і пачуем з яе боку тое, што даўно чуем з боку Украіны.

**«Четыре пера» (Расія)**

Апошні час ва Украіне ўсё часцей гучыць аптымістычнае меркаванне, што Бацька заўсёды выбірае бок моцных, і што цяпер ён абраў Еўропу. Але гэтая думка, на наш погляд, беспадстаўная. Лукашэнка не «выбіраў» Захад — проста менавіта ад ЕС у дадзены момант ён можа атрымаць пэўную выгаду. Вызваленне палітвязняў — гэта крок, у адказ на які Лукашэнка хоча атрымаць значныя для яго саступкі ад Еўропы. Перш за ўсё, вядома, у дадзенай сітуацыі для яго важныя крэдыты. Валюта дазволіць утрымаць эканоміку Беларусі, якая ляціць у прорву, ад краху — прынамсі, на некаторы час; а Лукашэнка дзейнічае звычайна менавіта з разліку на кароткатэрміновыя і сярэднетэрміновыя наступствы. Дзеля гэтага ён гатовы пайсці на нязначныя (для яго) крокі, але, вядома, не мяняць сістэму ў цэлым.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Самым паказальным прыкладам ізаляцыі, у якой апынулася Расія з яе цяперашнімі кіраўнікамі, з'яўляюцца паводзіны «бліжэйшага саюзніка» — беларускага лідара Аляксандра Лукашэнкі. Перадвыбарчыя лозунгі Аляксандра Лукашэнкі радыкальна памяняліся. Калі раней упор рабіўся на рост дабрабыту людзей, то зараз, у крызіс, творча перапрацаваны лозунг «Айчына ў небяспецы!». Адкуль жа ідзе небяспека? Аказваецца, яна паўзе не з Захаду, а з Усходу, з краіны, якая фармальна складае адзіную дзяржаву з Беларуссю. Неверагодна, але, як той казаў, факт.

**«Haqqin» (Азербайджан)**

Ніхто не сумняваецца ў тым, што Лукашэнка выйграе выбары з пераважнай большасцю галасоў і можа зрабіць гэта нават без падману, паколькі апазіцыя глыбока падзелена. Пасля перамогі беларускага прэзідэнта апазіцыя зноў стане аб'ектам «некалькіх хваляў» рэпрэсій, між тым, рэжым Аляксандра Лукашэнкі застанецца непахісным, калі прэзідэнту ўдасца манеўраваць паміж Расіяй і Захадам, як ён рабіў гэта да гэтага часу.

**«Observador» (Партугалія)**

Апошнія 7–8 гадоў беларуская апазіцыя не можа дамовіцца аб адзіным кандыдаце, і таму па факце адзіны «сапраўдны» апазіцыянер Караткевіч выклікае рэўнасць і падазрэнні ў «дагаворным матчы» з дзеючым кіраўніком дзяржавы. Аднак на разборках і абмеркаваннях тактыкі далёка не паедзеш. Галоўная праблема беларускай апазіцыі — усё ж такі дактрынальная. Яны навучыліся маляўніча (часам справядліва, часам — не) крытыкаваць беларускую палітычную і эканамічную рэчаіснасць. Аднак прапанаваць яны нічога не могуць. Лозунгі абстрактныя, а праблемы і інтарэсы грамадзян краіны цалкам канкрэтныя. Большасць беларусаў пакуль аддаюць перавагу ўмерана рэгуляванаму рынку, рынкаваму сацыялізму з элементамі дзяржаўнага капіталізму і не жадаюць рэзкіх пераменаў. Тым больш, што значная частка насельніцтва перакананая, што цяперашнія эканамічныя цяжкасці — следства прыўнесеных звонку праблем.

**«Парламентская газета» (Расія)**

Лукашэнку патрэбныя грошы і легітымацыя ў ЕС свайго кіравання як адзінага гаранта суверэнітэту Беларусі. Некалькі палітвязняў, якія не могуць паставіць пад пагрозу яго ўладу, — гэта разменная манета ў гульні. Латвія ў гэтай гульні не павінна станавіцца пешкай Лукашэнкі. На вызваленне палітвязняў варта рэагаваць пазітыўна. Пры гэтым змякчэнне асобных абмежаванняў павінна быць адзінай палітыкай ЕС. Якім бы моцным не было лобі беларускіх алігархаў у Латвіі, іх інтарэсы — гэта не інтарэсы нашай дзяржавы.

**«IR» (Латвія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФІНЛЯНДЫЯ. Не пусцім Швецыю ў NATO

Фінскі ўрад вуснамі кіраўніка Мінабароны негатыўна пракаментаваў чуткі пра намер Швецыі падаць заяву на ўступленне ў Паўночнаатлантычны Альянс. «Падача Швецыяй заявы на ўступленне ў NATO значыць знікненне падстаў для яе двухбаковага ваеннага супрацоўніцтва з Фінляндыяй», — сказаў на днях фінскі міністр абароны. «У апошнія гады грамадская думка ў Швецыі відавочна рухалася ў бок падтрымкі NATO. Ёсць прычыны для таго, каб у Фінляндыі ўважліва сачылі за гэтай тэндэнцыяй. Двухбаковае ваеннае супрацоўніцтва Швецыі і Фінляндыі страціць падставы, калі Швецыя падасць заяўку на ўступленне ў NATO», — прыводзіць словы міністра фінская прэса. Падобная ацэнка ў Фінляндыі пранатаўскіх настрояў у Швецыі выглядае дастаткова дзіўна з улікам шматгадовага мірнага фармату адносін паміж Хельсінкі і Стакгольмам. Тым больш, Фінляндыя сама не супраць стаць сябрам Паўночнаатлантычнага Альянсу. Застаецца спісаць агучаныя пазіцыі на тое, што фінскае Мінабароны ўзначальвае сябра права-папулісцкай партыі «Сапраўдныя фіны», якой па іміджу трэба падтрымліваць патрыятычную істэрыку.

**Паводле фінскай прэсы**

### РАСІЯ. Ці руская зямля Казань?

Татарская грамадскасць працягвае кіпець абурэннем з нагоды першай пропаведзі новага мітрапаліта Казанскага і Татарстанскага Феафана (Ашкуркава), у якой ён назваў Казань — рускай зямлёй, якую ахоўвае Багародзіца. Таксама Феафан нагадаў, што мы ўсе жывём у адной дзяржаве. Фраза ўладыкі выклікала цалкам прадказальнае абурэнне татарскіх нацыяналістаў. Актывісты казанскай секцыі Усетатарскага грамадскага цэнтра выступілі з заявай, у якой выказалі «здзіўленне» і «абурэнне» словамі мітрапаліта Феафана. Па іх словах, грамадзяне, да якіх звяртаўся ўладыка, жывуць не ў «Расійскай імперыі» і нават не ў «Казанскай губерні», а ў «дзяржаве Татарстан», дзе ёсць свая ўласная Канстытуцыя.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАКІСТАН. Дрэва і геапалітыка

І так не простыя амерыкана-пакістанскія адносіны пагоршыў інцыдэнт з дрэвамі. Пачаць трэба з таго, што пакістанская сталіца Ісламабад — штучны горад, які быў створаны ў 1960-я гады. Аўтары эскізу гарадскога плану асабліва вялікую ўвагу надавалі паркавай зоне, і ўвогуле наяўнасці ў метраполіі дрэваў. Існуе мясцовы закон, які забараняе знішчаць дрэвы без санкцыі гарадской адміністрацыі. Прыкладна год таму амерыканскія дыпламаты накіравалі запыт у мэрыю з просьбай дазволіць ім спілаваць 93 дрэвы ў зоне пасольства. Мэрыя адмовіла. Аднак на мінулым тыдні паліцыя выпадкова затрымала машыну, якая вывозіла з корпусу пасольства спілаваныя дрэвы, што і стала пралогам цяперашняга скандалу, які працягвае разрастацца. Амерыканскіх дыпламатаў абвінавацілі ў тым, што з-за высечкі дрэваў у горадзе стала цяжка дыхаць. Акрамя таго, амерыканцы даўно хацелі пабудаваць яшчэ адзін будынак у зоне пасольства, але пакістанскія ўлады былі супраць. У тым ліку таму, што мясцовыя аматары плётак запусцілі чуткі пра тое, што ў тым будынку размесціць шпіёнаў ЦРУ. І вось зараз выяўляецца, што нейкія нелегальныя будаўнічыя працы на тэрыторыі пасольства сапраўды ідуць. Інакш нашто было секчы дрэвы? Пакуль Вашынгтон і Ісламабад спрачаюцца, варта адзначыць, што канфлікт чымсьці нагадвае фабулу амерыканскага камедыйнага серыялу «На мяжы», які выйшаў у мінулым сезоне. Там пакістанскія вайскоўцы арганізуюць путч і выступаюць супраць Вашынгтона, які праз палёты сваіх самалётаў над Пакістанам, быццам, разбурае прыроду і зніжае рэпрадуктыўныя якасці пакістанскай моладзі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Паліталогія як ілжэнавука

У вышэйшых навучальных установах Узбекістана адмянілі выкладанне паліталогіі як агульнаадукацыйнага прадмета. Такі крок Ташкент афіцыйна абгрунтоўвае тым, што тэмы прадмета «паліталогія» дублююцца з іншымі навукамі, што ў гэтай навукі няма навуковай метадалогіі, вучэбная літаратура існуе толькі на заходніх крыніцах, не ўлічваецца нацыянальная навуковая спадчына і, нарэшце, паліталогія не асвятляе «ўзбекскую мадэль» развіцця. Крытыкі рэжыму лічаць, што, магчыма, прэзідэнту трапіў на вочы нейкі падручнік па паліталогіі, які дае адмоўную ацэнку яго рэжыму. Вось Карымаў і вырашыў забараніць цэлую навуковую галіну. Праўда, магчыма, хутка гаспадар зменіць гнеў на міласць. Тое, што Карымаў можа рэабілітаваць паліталогію, сведчыць пасіўная рэакцыя ўлады на пратэсты ўзбекскіх навукоўцаў. Яны накіравалі ў Мінадукацыі петыцыю, заклікаючы перагледзець папярэдняе рашэнне.

**Паводле ўзбекскай прэсы**



# Ці перамог за Бугам фемінізм?

Алег НОВІКАЎ

**Чым бы ні закончыліся прызначаныя на кастрычнік парламенцкія выбары ў Польшчы, адзін з іх вынікаў відавочны ўжо цяпер — прэм'ерам краіны застанецца жанчына.**

Тое, што да будучага польскага прэм'ера давядзецца звяртацца «пані», а не «пан», стала зразумела пасля таго, як з'езд кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) аддаў першае месца ў сваім выбарчым спісе Беаце Шыдла. Паколькі галоўным канкурэнтам Беаты на кастрычніцкіх выбарах будзе Эва Копач (цяперашні прэм'ер і лідар ліберальнай «Грамадзянскай платформы»), гендэрная прыналежнасць будучага кіраўніка польскага ўраду не выклікае сумневаў. Акрамя PiS і «Грамадзянскай платформы» ніводная з партый-удзельніц выбараў не мае шансаў на тое, каб атрымаць права на фармаванне кабінету.

Такі расклад — сапраўдны сюрпрыз для еўрапейцаў, прынамсі для тых, якія бачылі Польшчу краем каталіцкага-цемрашалаў. Прагрэсіўная і левая прэса старой Еўропы прызнаюцца, што не чакалі такіх навінаў з Варшавы. Як піша блізкая да нямецкіх зялёных газета «Tageszeitung», «хаця жаночая квота для партыйнага кіраўніцтва існуе ў Польшчы даўно, яшчэ дзесяць гадоў таму ніхто не мог уявіць, што тут могуць быць парламенцкія спікершы і прэм'ершы».

Праўда, адначасова ў Еўропе і ў Польшчы хапае тых, хто сумняваецца ў фемінізацыі польскай палітыкі. Паводле іх, у выпадку з Беатай Шыдла гутарка ідзе пра брудныя схемы палітычных тэхнолагаў у штабе PiS, дзе зразумелі, што стаўку на гэтых выбарах трэба рабіць на жанчыну.

У якасці доказу звяртаецца ўвага на тое, што PiS фактычна дублюе формулу, якая прынесла партыі поспех на майскіх прэзідэнцкіх выбарах. Тады ўжо цяпер былому прэзідэнту Браніславу Камароўскаму супрацьстаяў малады і малавядомы Анджэй Дуда. Адсутнасць належнага вопыту ў кандыдата PiS кампенсавалася стомленасцю ад старой палітычнай эліты.

Па падобнай схеме, эксплуатуючы попыт палякаў на нешта новае, кансерватары цяпер спрабуюць перамагчы на парламенцкіх выбарах. На карысць кандыдатуры Беаты Шыдла таксама гуляе той факт, што яна калісьці, будучы мэрам гарадку Бжэшчэ (польск.: Brzeszcze), займалася вельмі актуальнай цяпер у Польшчы праблемай вугальнай вытворчасці.

Беата Шыдла, сапраўды, малавядомы ў Польшчы палітык, і пасля абрання на пасаду кандыдата ад PiS на прэс-канферэнцыі ёй некалькі разоў давялося ўдакладняць журналістам сваё прозвішча. У яе сапраўды «шэрая біяграфія». Нарадзілася, паступіла, закончыла, працавала, стала сябрам партыі, абралася мэрам горада, атрымала мандат дэпутата Сейма, стала кандыдатам на прэм'ера. Замужам, двое дзяцей. Увесь жыццёвы шлях можа змясціцца ў адным абзацы Вікіпедыі. Адзіны забаўны факт у мінулым Беаты звязаны з яе ўдзелам у кіраўніцтве муніцыпальнага Дэпартамента добраахвотнай пажарнай аховы.

Другая прычына для сумневу ў трыумфе польскага фемінізму тычыцца аўтарытэта Беаты Шыдла ў партыі і ў грамадстве. Нават яе прыхільнікі пагаджаюцца, што яна несамастойная фігура і ў выпадку абрання прэм'ерам будзе гуляць па правілах культавага партыйнага боса Яраслава Качыньскага. У прэсе Беаце жартам нават далі мянушку «дзяўчына Бонда».

Праўда, у аргументах крытыкаў Беаты Шыдла ёсць адзін слабы ланцужок. Магчыма, яе біяграфія не багатая на гераічныя ўчынкі, аднак гэта трэнд часу. Польшча праходзіць фазу змены палітычных генерацый. Народжаная ў 1963 годзе, Беата была хутчэй назіральнікам, чым актывістам, а тым больш лідарам руху «Салідарнасць», адкуль чэрпала дзяржаўныя кадры постсацыялістычная Польшча. Яе біяграфія падаецца сумнай і нецікавай, аднак няда характэрная для палітыкаў з еўрапейскіх дзяржаваў са сталымі і развітымі дэмакратычнымі інстытутамі.

Што тычыцца будучай ролі марыянэткі, якую ахвотна прыпісваюць Беаце, то тут таксама не ўсё так прымітыўна. Напрыклад, Анджэй Дуда, якога з самага пачатку яго балаціроўкі на прэзідэнта запісалі ў шасцёркі Качыньскага, пасля нядаўняй інаугурацыі выглядае як дастаткова самастойны гулец. Прэса нават лічыць, што канфлікт паміж Дудай і Качыньскім, які паспрабуе ім маніпуляваць, — пытанне часу. Чаму не чакаць падобнага ад Беаты Шыдла, якая пры гэтым таксама можа казаць пра правы жанчын?

Нават будучы скептыкам і загадзя прызнаючы несамастойнасць фігуры Беаты Шыдла, усё роўна відавочна, што яе асабістыя схільнасці так ці інакш адаб'юцца на курсе наступнага кабінета (нагадаем, што калі меркаваць па рэйтынгах, усё ідзе да перамогі кансерватараў на выбарах). Аналіз дзейнасці Беаты Шыдла на пасадзе мэра дазваляе лепш зразумець яе прыярытэты ў адміністрацыйнай працы.

Яна кіравала муніцыпалітэтам восем гадоў. Будучы паводле дыплома культуролагам, Беата зрабіла гораду вельмі багатую культурную праграму. Шмат каму з гараджан часы яе кіравання горадам запомніліся як часы культурных фестываляў. Праўда, як прызнаюцца яе былыя калегі па лакальнай адміністрацыі, пані мэр не займалася сістэмна праблемамі гораду і развіццём партыйных структураў. У выніку пасля заканчэння яе кадэнцыі і ад'езду ў Варшаву ў якасці дэпутата мясцовая секцыя партыі «Права і Справядлівасць» прайграла муніцыпальныя выбары.

Ці чакае Польшчу пяцігодка, калі галоўным прыярытэтам ураду будзе праводзенне культурных фэстаў, казаць яшчэ рана. Аднак, безумоўна, многа культуры ніколі не бывае.

# Чарэ — жах туркменаў

Алег НОВІКАЎ

**Смерць у Ашхабадзе трох чалавек, якіх сагналі сустракаць туркменскага прэзідэнта, выклікала ў праваабаронцаў заклапочанасць «чарэ» — практыкай туркменскіх уладаў па прымусоваму згону мясцовых жыхароў на святочныя мерапрыемствы.**



Трагедыя адбылася яшчэ 4 жніўня падчас урачыстага адкрыцця сталічнага стадыёна. Аднак пацвердзіць інфармацыю пра смерць людзей праваабаронцы змаглі толькі напрыканцы жніўня.

У той дзень тэмпература паветра перавышала 40 градусаў. Чакалася, што прэзідэнт краіны прыедзе на аб'ект а 8-й раніцы, таму людзей сагналі на пляцоўку ўжо а 5-й. Але ў выніку Гурбангулы Бердымухамедаў прыехаў на адкрыццё толькі ў 11:45. Пазней высветлілася, што прэзідэнт вырашыў спачатку агледзець іншыя аб'екты.

Амаль сем гадзін людзі былі пад пільным наглядам спецслужбаў, не маглі выпіць вады, паесці або схадзіць у прыбіральню. У выніку за гадзіны чакання прытомнасць страцілі 50 чалавек, 14 чалавек, у тым ліку пяцёра дзяцей, былі шпіталізаваныя яшчэ да пачатку мерапрыемства. У выніку двух дарослых і адно дзіця выратаваць не атрымалася, яны памерлі.




**За сем гадзін чакання прыезду прэзідэнта на адкрыццё стадыёна прытомнасць страцілі 50 чалавек**

Сітуацыя ўскладнялася яшчэ і тым, што ўсе дарогі ў радыусе 3 кіламетраў ад стадыёна былі перакрытыя да 13 гадзін. Таму медыкі не змаглі даставіць пацярпелых у кардыяцэнтр, які знаходзіўся па-за ачапленнем.

Гэта ўжо не першы выпадак, калі ў Туркменіі падчас урачыстых мерапрыемстваў, куды прымусова зганяюць грамадзян, гінуць або церпяць людзі. Можна ўзгадаць, як узімку 2010 года падчас адкрыцця нейкай тэкстыльнай фабрыкі сотні дарослых і навучэнцаў захварэлі ў выніку пераахаладжэння — паліцыя і супрацоўнікі спецслужбаў не дазвалялі ім адысці ў прыбіральню. У выніку людзі вымушаныя былі заставацца ў мокрай бялізне на працягу некалькіх гадзін.

У чэрвені гэтага года праходзіў футбольны матч паміж туркменскай і іранскай зборнымі, падчас якога трое гледачоў памерлі наўпрост на стадыёне з-за цеплавога ўдару. Парадокс у тым, што сапраўдных фанатаў футболу на стадыён не пусцілі. Каб стварыць малюнак татальнага інтарэсу туркменаў да спорту, стадыён нашпігавалі работнікамі бюджэтнай сферы, якія ў выніку сталі ахвярамі спякоты.

Апісаныя з'явы туркмены называюць «чарэ». «Чарэ» — рознага кшталту мерапрыемствы, дзе людзям адводзіцца роля прымусова арганізаванай масоўкі. Хутчэй за ўсё, база для «чарэ» была закладзеная яшчэ ў часы позняга СССР, калі на базе працоўных калектываў святкавалася ўвядзенне ў эксплуатацыю новых аб'ектаў. Аднак на Усходзе, дзе моцныя традыцыі дэспатыі, пачаў рабіцца акцэнт на ролі кіраўніцтва і асабіста лідара краіны ў рэалізацыі якога заўгодна праекту.

Па ходу станаўлення ў Туркменіі дыктатарскага рэжыму «чарэ» стаў сапраўдным грамадскім інстытутам. Калі меркаваць па туркменскіх сайтах, ніхто, акрамя праваабаронцаў, асабліва не здзіўляецца таму, што за нейкі час да прыезду важнага чыноўніка ўсіх пачынаюць ганяць на рэпетыцыі яго сустрэчы, якія могуць адбывацца як раніцай, так і ўвечары. Яўка асобна кантралюецца кіраўнікамі прадпрыемстваў, у тым ліку прыватных.

Адным з элементаў «чарэ» таксама з'яўляецца ачыстка тэрыторыі ўздоўж аўтатрасы ад мясцовага аэрапорта да абласнога цэнтра або да месца правядзення ўрачыстасці. Пры гэтым увесь участак аўтадарогі (напрыклад, ад аэрапорта да месца прыпынку картэжу кіраўніцтва) папярэдне разбіваецца на адрэзкі. Адрэзкі раздаюцца арганізацыям і ўстановам рэгіёну.

Усе працы калектывы павінны выканаць за кошт прыбытку прадпрыемства. Калі ж прадпрыемства стратнае, то ўсе фінансавыя выдаткі кладуцца на плечы работнікаў гэтых прадпрыемстваў. Адмова ад выканання загаду башлыкоў (тур.: «адміністратыўны кіраўнік») пагражае работніку звальненнем.

Самы цяжкі выпадак з магчымых версій «чарэ», калі на іх запланаваны прыезд і ўдзел самога аркадага (тур.: «заступнік» — афіцыйная мянушка Бердымухамедава). У такім выпадку негалосныя правілы вельмі строгія: людзі павінны быць на месцы сустрэчы ўжо ў 5–6 гадзін раніцы або ўвогуле начаваць на аб'екце. Нервы і стомленасць кіраўнікоў і работнікаў культуры з-за працяглых рэпетыцый, перажыванне з нагоды таго, ці пройдзе ўсё гладка, павялічваюць градус напружанасці і вядуць да шматлікіх бытавых канфліктаў.

Апошнім часам тыя канфлікты таксама часта ўзнікаюць на глебе праверкі ўдзельнікаў «чарэ» на прадмет наяўнасці ў іх мабільных тэлефонаў. Прычынай стала падзенне прэзідэнта з каня падчас спартовых мерапрыемстваў у 2012 годзе. Каб не дапусціць надання галоснасці апісанай сцэны, спецслужбы запатрабавалі ад усіх прысутных здаць мабільнікі. Пазней нават увялі кантроль на ўсіх міжнародных рэйсах, што, праўда, не дапамагло — запіс усё роўна з'явіўся з сеціве.

Дарэчы, па некалькі гадзін чакаць прэзідэнта даводзіцца не толькі грамадзянам краіны, але і замежным дыпламатам. Так, у дзень народзінаў Бердымухамедава дзясяткі паслоў розных краіны вымушаны былі яго чакаць некалькі гадзін, стоячы з вялізнымі букетамі з сотні белых ружаў (менавіта гэтыя кветкі было рэкамендавана падарыць прэзідэнту).

Калі чытаеш пра туркменскае «чарэ», нельга не рабіць праекцыю на Беларусь. У нас да візітаў аднаго вядомага палітыка мыюць асфальт, фарбуюць каровам капыты, а чыноўнікі на сустрэчах не могуць выйсці ў прыбіральню. Відавочна, у нас ёсць сваё, магчыма, не такое брутальнае беларускае «чарэ».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ніна Штанскі



Міністр замежных спраў непрызнанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі (ПМР) сыходзіць з высокай пасады праз раман з прэзідэнтам Яўгенам Шаўчуком. Прэзідэнт ПМР ужо афіцыйна папрасіў яе рукі. Фармальных перашкод для паходу ў ЗАГС у пары няма. 42-гадовы Шаўчук халасты, а ў 38-гадовай Штанскі ў графе «сямейны стан» стаіць запіс «выхоўвае дачку Яну». З улікам таго, што ПМР падтрымлівае дыпадносіны выключна з падобнымі да сябе нефармальнымі дзяржавамі накшталт Паўднёвай Асеціі і Абхазіі, адстаўка міністра прыднястроўскага МЗС наўрад ці моцна паўплывае на стан мясцовай дыпламатыі. Аднак самае цікавае, што рамантычны ўчынак Штанскі аказаўся вельмі заразным для рэгіянальных палітыкаў. Літаральна на наступны дзень пасля паведамленняў пра шлюб Штанскі і Шаўчука на падобны ж крок пайшоў кішынёўскі мэр Дорын Кіртаакэ. Бургамістр зрабіў прапанову журналістцы аднаго са сталічных каналаў. Прапанова была зробленая падчас канцэрта ў кішынёўскай оперы. У перапынку Дорын перад усім мірам апусціўся на калені перад журналісцкай і спытаў, ці пагодзіцца яна стаць яго жонкай. І атрымаў згоду. Самае цікавае, што напярэдадні мэр казаў, што жанаты на мэрыі і ніякая нявеста яму не патрэбная.

### Рэджэп Эрдаган



Прэзідэнт Турцыі заявіў, што парламенцкая сістэма ў краіне ўжо трансфармавалася ў прэзідэнцкую. «Хочаце вы гэтага ці не, Турцыя ўжо стала прэзідэнцкай рэспублікай», — сказаў прэзідэнт падчас паездкі па рэгіёнах. На думку Эрдагана, выбар на карысць прэзідэнцкай сістэмы народ Турцыі зрабіў 10 жніўня 2014 года, прагаласаваўшы за яго на прэзідэнцкіх выбарах. Сентэнцыю Эрдагана аб тым, што дзяржаўная сістэма дэ-факта змянілася, лідары апазіцыі назвалі спробай дзяржаўнага перавароту. «Што ж гэта такое? Мы не заўважылі, як адбыўся дзяржаўны пераварот? Няўжо канстытуцыйны парадак паваліўся, а мы гэтага нават не зразумелі? Змены такога маштабу выходзяць далёка за рамкі жадання аднаго канкрэтнага чалавека», — адрэагаваў адзін з лідараў турэцкай апазіцыі. Заява Эрдагана прагучала ў разгар палітычнага крызісу, калі партыі ў парламенце не здольныя сфармаваць кабінет. Гэта значыць, што датэрміновыя выбары непазбежныя, аднак па сутнасці яны будуць плебісцытам наконт новай Канстытуцыі, якая можа ўсталяваць прэзідэнцкую рэспубліку. У цяперашні час пасада кіраўніка дзяржавы ў Турцыі носіць цырыманіяльны характар, рэальныя паўнамоцтвы належаць прэм'ер-міністру, якім з 2003 года і да свайго абрання прэзідэнтам быў Эрдаган.

### Марыя Мея



Прадстаўнік Калумбіі пры ААН пачала грамадскую кампанію за абранне жанчыны на пасаду генеральнага сакратара ААН. Наступныя выбары генсека адбудуцца ў кастрычніку наступнага года. Нагадаем, што ўсе гэтыя 70 гадоў ААН кіравалі выключна мужчыны (усяго іх было восем). У прынцыпе, ад Калумбіі залежыць мала што, паколькі кандыдатура генсека вызначаецца за зачыненымі дзвярыма, дзе засядаюць прадстаўнікі Саўбезу — ЗША, Расія, Кітай, Вялікабрытанія і Францыя. Іншым краінам надаецца права толькі прагаласаваць або не прагаласаваць за прапанаванага пяцёркай кандыдата. Марыя лічыць, што ў рамках кампаніі можна пераканаць сябраў Саўбезу зрабіць выбар на карысць жанчыны, тым больш сёння такая прэтэндэнтка існуе. Гэта балгарка Ірына Букава, цяперашні кіраўнік ЮНЕСКА. У прынцыпе, у гісторыі былі два выпадкі, калі жанчыны высоўваліся ў якасці кандыдата на пасаду генсека ААН, аднак беспаспяхова. З улікам таго, што ААН святкуе 70-гадовы юбілей, да прапаноў наконт рэформы ставіцца больш лагодна. Поспех кампаніі Марыі Мея можа мець маштабныя наступствы. Сам факт прыходу жанчыны на пасаду кіраўніка ААН можа быць успрыняты як пачатак рэформы арганізацыі.

4 верасня 2015 | № 33 (450) Новы Час


Фота Паўла Аксіновіча з канцэрта з нагоды 55-годдзя Ігара Варашкевіча

# Крамы Ігара Варашкевіча

Да назвы самага вядомага рок-гурту меў дачыненне знаны беларусіст Адам Мальдзіс. Калі было вырашана канчаткова перайсці на беларускую мову, да яго музыкі звярнуліся з просьбай тлумачэння розных словаў, сярод якіх была і «Крама». Лідару гурта Ігару Варашкевічу перш за ўсё спадабалася тое, што ў іх назвы будзе так шмат значэнняў. І вось што ён сам распавёў пра свае крамы.

**Аляксандр Тамковіч**



Фота з сямейнага архіва Ігара Варашкевіча

## Першая крама

Для мяне яна адчынілася 15 жніўня 1960 года ў Баранавічах у мясцовым раддоме. Але першыя дзіцячыя ўспаміны звязаныя, зразумела не з раддомам, бо я там, натуральна, нічога памятаць не мог. Успамінаецца дзіцячы садок, дакладней, тое, як мяне адтуль заўчасна забірала бабуля. Мне гэта вельмі было даспадобы, бо я ніколі не любіў вялікую колькасць людзей, то бок натоўп.

Сцэна — гэта іншая справа. Гэта не той натоўп. Не падабаецца той, што бывае ў звычайным жыцці. Я, напрыклад, не люблю хадзіць на Камароўку. Мне там адразу становіцца дрэнна. Хаджу, як зомбі. Шопінг і гандаль — не для мяне. На любым рынку хуценька нешта купляю, і яшчэ хутчэй адтуль збягаю.

Я не вельмі люблю канцэрты на стадыёнах, больш даспадобы залы на 200–300–500 чалавек. Калі людзей шмат, працуеш неяк па-іншаму, адчуваеш іншыя эмоцыі. Ніколі не імкнуўся да масавага ідалапаклонства. І вельмі спакойна стаўлюся да таго, што нехта называе мяне «легендай беларускага року».

Мой бацька, Уладзімір Фаміч, нарадзіўся ў 1935 годзе ў Мядзелі, аднак, неўзабаве, сям’я пераехала ў Паставы, таму адным са складнікаў успрыняцця тых часоў я лічу менавіта Паставы.

На жаль, у 1996 годзе майго бацькі не стала. Памёр адразу пасля выхаду на пенсію, таму я прыдумаў такі жартаўлівы алгарытм: для гэтай улады выгадна, каб чалавек памёр у год выбараў, перад смерцю паспеў правільна прагаласаваць, а потым адразу пайшоў з жыцця, каб яму не трэба было плаціць пенсію.

А маці, Тамара Іллінічна, родам з Гомеля. Яе бацька ваяваў, і пасля вайны яго накіравалі ў Баранавічы начальнікам мясцовага вузла сувязі. Там і працаваў усё сваё жыццё.

Таму ў маім дзяцінстве існавалі два палярныя полюсы выхавання. Цалкам саветызаваныя Баранавічы, дзе заўсёды было шмат вайсковых частак, і Паставы з іх польска-беларускімі духам.

Аднак зразумеў гэты падзел я крыху пазней, а тады быў звычайным савецкім хлопчыкам, у якога ўсе нармальна — адзін у бацькоў, дзядулі і бабулі, прадзядулі і прабабулі, яслі, дзіцячы садок і г.д.

Мае бацькі пазнаёміліся і пабраліся шлюбам у Баранавічах. Маці там жыла пастаянна, а бацька ў наш горад прыехаў па размеркаванні пасля заканчэння геалагічнага тэхнікума. Ён быў бурыльшчыкам. Толькі шукаў не нафту, а звычайную ваду для піцця. І быў не звычайным рабочым, а галоўным інжынерам, намеснікам дырэктара.

Ён даволі часта ездзіў у камандзіроўкі, і, калі дазваляла вучоба (канікулы альбо выходныя) браў мяне з сабой. Я вельмі любіў тыя падарожжы.

Маці працавала на мясцовай радыёстанцыі.

Першыя дзіцячыя ўспаміны — паездка ў Крым, калі мне было толькі пяць гадоў. А яшчэ першы малюнак — у дзіцячым садку акварэллю я намаляваў Крэмль. Малюнак быў вялікі, з салютам.

Пастаўская ж частка дзяцінства перш за ўсё асацыюецца з пернікамі, якія мне пякла бабуля. Яна так іх называла, але гэта не быў пернік у тым выглядзе, як мы яго ведаем. Хутчэй, гутарка ішла пра сапраўдны пірог. Яшчэ ў Паставах я даволі часта еў фінскія цукеркі «Файзер» або «Гелас». Бабуля добра шыла, і цукеркі ёй прыносілі ў якасці прэзенту. Вельмі смачна. Цяпер, напэўна, такіх няма.

**Пасля школьнага выпуску я амаль год працаваў на авіязаводзе, займаўся дэмантажом. Разборка самалётаў — першая стадыя іх рамонту. Напэўна, гэта была самая цяжкая праца ў маім жыцці**

У 1967 годзе я пайшоў у школу нумар сем. Першапачаткова павінен быў ісці ў зусім іншую школу, але тая лічылася (умоўна) дрэннай.

У нашай сёмай школе быў англійскі ўхіл, таму зараз я вельмі шкадую, што тады не скарыстаўся магчымасцю і не вывучыў англійскую мову як след. Канешне, я магу спяваць па-англійску, але не больш…

## Крама захапленняў

Прыблізна да пятага класа я вучыўся больш-менш, а потым вучоба стала цалкам не цікавай. На ўроках я збольшага толькі маляваў, а з сёмага класа яшчэ і захапіўся рок-музыкай. Больш за ўсё падабаліся «Led Zeppelin», «Deep Purple», «Nazareth», «Slade», «Pink Floyd», «Doors», Джымі Хендрыкс, Джэніс Джоплін. Словам, увесь джэнтльменскі набор тых часоў.

У дадатак да рок-музыкі я слухаў шмат блюзу. Пераважна па радыё, для чага лавіў польскія і чэшскія радыёстанцыі, дзе было шмат аўтэнтычнага «чорнага» блюзу.

Мікст гэтых двух жанраў і склаў тое, што мы граем усё жыццё, што я называю народным беларускім блюзам, а агульнапрынятая назва — рок-блюз.

Паралельна моцна захапляўся прыгодніцкай літаратурай і літаратурай пра свет жывёл. Зараз, напэўна, гэтыя прозвішчы нікому нічога не скажуць, а тады былі амаль культавымі — Джой Адамсан, Бернард Гржымек, Джэральд Дарэл з яго фільмам пра львіцу «Народжаная свабоднай». Сёння гэта ўсё можна ўбачыць на «Animal planet», а тады не было нічога падобнага. Толькі кніжкі. Нават хацеў быць заолагам, але, калі справа дайшла да біялогіі, стала відавочна, што ніколі ім не стану.

З прыгодніцкай літаратуры я прачытаў усяго Джэка Лондана, Конан-Дойля, Герберта Уэлса (фантастыку таксама любіў). Гэта мяне больш вабіла, чым школьная праграма.

Матэматыка, фізіка для мяне — кранты. Тое ж самае наконт хіміі і біялогіі — не навуковец я.

У старэйшых класах, калі трэба было думаць, што рабіць пасля школы, я быў у роспачы, бо разумеў, што без гэтых навук нікуды не паступлю. Не ведаў, што рабіць. Менавіта па гэтай прычыне нават усур’ёз разглядаў варыянт стаць бібліятэкарам… Але больш за ўсё мяне вабіла маляванне. Паўтаруся, гэта захапленне з дзяцінства. Бацькі заўважылі маю схільнасць і пачалі купляць каляровыя алоўкі, якімі я любіў маляваць больш за ўсё. Класічны жывапіс — не зусім маё. Больш даспадобы графіка.

А калі стаў дарослым і змяніў жыццёвыя арыенціры, дык ад таго захаплення не адмовіўся цалкам. Напрыклад, у 2008 годзе ў мінскай галерэі «Падземка» прайшла выстава маіх мастацкіх прац, арганізаваная разам з Нікай Сандрас.

Паралельна з гэтым захапленнем узмацнялася цікавасць да рыбалкі ў прыватнасці, і беларускай прыроды ўвогуле. Памятаю, з бацькамі падчас іх адпачынку мы заўсёды ездзілі ў Швакшты. Людзей там практычна не было. Некалькі тыдняў я праводзіў як нейкі абарыген.

З гадамі больш хочацца цішыні. Нават калі няма клёву — гэта не істотна. Прыгажосць у іншым: ва ўсходзячым сонцы альбо зорках, якія ты назіраеш, калі сядзіш ноччу ля вогнішча. На жаль, нашы дзеці ўсяго гэтага могуць ужо не ўбачыць…

Не так даўно пабываў там зноўку. Мясціны свайго дзяцінства ледзь пазнаў. Усё змянілася надзвычай кардынальна. Цяпер бераг возера арандуе нейкі «маркіз Карабас». Заплацілі трыццаць тысяч за тое, што ён там паставіў нікому не патрэбныя лаўкі і альтанкі. Ні прыбіральняў, ні электрычнасці, ні нармальных стаянак для машын. На Захадзе сутнасць арэнды зусім іншая. А ў нас галоўнае — зрубіць бабло.

## Крама сталення

Перад войскам у мяне пачаў змяняцца густ. Пачынаўся хэві-метал, і зацікаўленасць цяжкай музыкай пачала змяншацца. Выключэнне — «AC/DC». На мой погляд, гэта блюз. Толькі выкананы ў стылі цяжкога року.

Акрамя іх я слухаў толькі панк-рок. Дарэчы, свае першыя песні я напісаў, пачуўшы «Sex Pistols». Было гэта напрыканцы 1970-х гадоў.

Школу скончыў у 1977 годзе, аднак два гады мне рабілі адтэрміноўку, таму прызвалі толькі восенню 1979-га. Пасля школьнага выпуску я амаль год працаваў на авіязаводзе, займаўся дэмантажом. Разборка самалётаў — першая стадыя іх рамонту. Напэўна, гэта была самая цяжкая праца ў маім жыцці.

Працаўладкаваўся я перад самай зімой, і вельмі хутка адчуў, што такое ў халадэчы неацяпляльны цэх. Тэмпература ў нашым памяшканні была такой жа, як на вуліцы.

У маёй працоўнай кніжцы гэта адзіны запіс, які не звязаны з мастацтвам. Пасля авіязаводу была праца на рамонтным прадпрыемстве, ужо ў якасці мастака.

Малады тады быў, любіў паспаць, таму ўвесь час спазняўся. Вокны кабінета нашага начальніка выходзілі на прахадную, таму ён усё гэта бачыў і потым мне выгаворваў. Але галоўнае не гэта, а тое, што я паспеў адтуль зволіцца за тыдзень да таго, як згарэў клуб, дзе я працаваў. Калі б гэта адбылося пры мне, яго б сто працэнтаў павесілі на мяне. Паспеў саскочыць.

Было гэта перад самым прызывам. Ледзь не трапіў у Афганістан, але ўрэшце прызвалі ў Сосны, у вучэбку.

Маляваў я і ў войску. Вядома, што пасля вучэбкі звычайна трапляюць у «лінейку», то бок у звычайныя вайсковыя часткі. Напэўна, так адбылося б і са мной, каб не адзін выпадак.

У нас былі чарговыя заняткі. Увесь час я рабіў наш ленінскі пакой, таму пра прадмет размовы меў даволі абстрактнае ўяўленне. Мне надакучыла слухаць «настаўніка колеру хакі», і я пачаў маляваць. Было тры фламасцеры — сіні, зялёны і чырвоны. Намаляваў імі настаўніка, якім тады быў нейкі падпалкоўнік. Здаецца, з прозвішчам Гардзейчык. Гэта было нешта падобнае на шарж.

А потым аўтаматычна вакол яго пачаў маляваць голых жанчын. Ён нешта бачыў і папрасіў мой канспект. Я скінуў на пол малюнак. Ён папрасіў нашага сяржанта падняць аркуш. Паглядзеў, пачырванеў, але нічога адразу не сказаў. Пасля заняткаў я падышоў і папрасіў прабачэння. Сябе ён пазнаў, а наконт голых жанчын спытаў: «Чаму?» Я адказаў, што яшчэ малады...

Канешне, потым быў даволі гучны скандал, але з вучэбкі мяне не пагналі. Па загаду камандзіра часткі пакінулі ў гаспадарчым узводзе. Каб да канца службы (у тым ліку і пад камандай падпалкоўніка Гардзейчыка) я нешта для іх маляваў.

Дарэчы, дэмбельскі альбом у мяне захаваўся па сёння. Там незвычайныя «калькі». Не як ва ўсіх, зробленыя пад капірку, а кожная намалявана эксклюзіўна. Там усё наша жыццё, шаржы на ўсіх афіцэраў і прапаршчыкаў вучэбкі.

Некаторыя начальнікі пра гэта чулі, і каб мяне злавілі, што называецца, з палічным, каштавала б усё вельмі дорага, але, дзякуй Богу, пранесла. Словам, гуляў з агнём.

З войска я вярнуўся восенню 1981 года, і фільмаў, якія выйшлі на экраны падчас маёй вайсковай службы, канешне ж, не бачыў, таму амаль адразу называю годам іх выпуску 1980-ты. Людзі настальгуюць па тых часах, мяне ж тады цікавілі зусім іншыя рэчы. Польская музыка, напрыклад.

Да службы гэта быў Тадэвуш Налепа і гурт «Breakout», а пасля таго, як у Польшчы ўвялі ваеннае становішча, з'явіліся «Брыгада крызіс», «Отдзел замкненты», «Лэдзі панк», «Банда і Ванда» і г.д. Пасля вайсковай службы я стаў зусім іншым чалавекам. У сэнсе музычных прыярытэтаў.

Да лета наступнага года паступаць было немагчыма, таму я ўладкаваўся мастаком у электрасетцы.

У 1982 годзе я паступіў на мастацка-прамысловы факультэт Тэатральна-мастацкага інстытута па спецыяльнасці «інтэр'ер і абсталяванне». У 1987 годзе яго скончыў і па размеркаванні паехаў у рэстаўрацыйныя майстэрні ў Гародню, але там адразу ўзяў адмацаванне, таму што мне пастаянна трэба было ездзіць у Мінск, дзе яшчэ існавала «Бонда».

З Баранавічаў значна бліжэй і прасцей, таму ў родным горадзе я ўладкаваўся мастаком у раённы аддзел культуры. Праз некалькі гадоў перайшоў на працу ў нейкае прыватнае ТАА. Прапрацаваў (збольшага фармальна) там да 1997 года. Больш ніякіх запісаў у маёй працоўнай кніжцы няма.

### Крамы творчасці

Яшчэ ў школе, дакладней, пасля восьмага класа, бацькі падаравалі мне класічную гітару. Калі сказаць вельмі мякка, то граць на ёй (хадзіць на заняткі) не падабалася. Неўзабаве мне выпадкова перабілі палец, і я перастаў граць увогуле. Праз некаторы час траўма зажыла, і я зноў узяў у рукі гітару. Зняў дзве струны і сам пачаў падбіраць нешта рок-н-рольнае. У гэты ж час засвоіў ігру на гармоніку.

Перад самай арміяй пачаў складаць песні, не ведаю чаму, бо па спевах у школе ў мяне заўсёды былі двойкі. Напэўна, прага да творчасці ў нас ёсць на нейкім падсвядомым узроўні. Першыя песні былі на вершы Бернса і байкі Кандрата Крапівы. Хутчэй за ўсё, з гэтага і пачалася мая любоў да беларускай мовы. Я зразумеў, што можна спяваць па-беларуску пад музыку, якая мне падабаецца.

Потым дадаліся тэксты на беларускай мове, якія ў «Бондзе» пісаў Сяргей Кныш, і ўплыў палякаў, якія спявалі па-польску. Я прынцыпова перайшоў на беларускую мову.

Дарэчы, менавіта моўнае пытанне і вырашыла мой творчы лёс.

Першым гуртом, дзе я граў, быў «Студыё–7».

Я трапіў туды амаль выпадкова. Памятаю, як Слава Сціпанаў, на той момант студэнт кансерваторыі, ішоў па калідоры нашага інтэрната, у той час як я ў сябе ў пакоі нешта дрынькаў на гітары і граў на губным гармоніку. Пачуўшы маю «музыку», Слава запрасіў у склеп нашага інтэрната, дзе ў хлопцаў была студыя. Сыграў на губным гармоніку нешта з рэпертуару «Led Zeppelin», і мяне прынялі ў калектыў, які складаўся з некалькіх скульптараў і аднаго кантрабасіста.

Потым з яго ўзніклі адразу дзве каманды — «Бонда» і «Метро». Я, Сяргей Кныш і Іван Маркаў вырашылі стварыць беларускамоўную групу.

Мы нават з Мальдзісам кансультаваліся наконт назвы. Прынеслі яму цэлы спіс словаў, які напісаў, здаецца, Анатоль Сыс. І Адам Восіпавіч падрабязна тлумачыў сэнс кожнага.

«Метро» ж пайшло іншым шляхам. Яны сталі граць і спяваць рускамоўны поп.

«Бонда» мае шмат сэнсаў, сярод якіх — «лепта», «кавалак», «частка нечага цэльнага, адзінага». Шмат адценняў і ў слова «Крама», якое таксама было ў тым спісе і якое я потым і прапанаваў.

Першы альбом «Бонды» (дзе ёсць «Слуцкая брама» і «Стэфка») мы зрабілі ў 1986 годзе. А да гэтага ў падвале Тэатральна-мастацкага інстытута былі запісаныя першыя песні. Адбылося гэта на зломе 1984 і 1985 гадоў. Збольшага, у 1985 годзе. Умоўна сёлета 30 гадоў маёй беларускамоўнай творчай дзейнасці.

«Бонда» праіснавала да 1989 года.

У гэты час, нагадаю, я з'ехаў у Баранавічы, і на два гады адышоў у бок ад публічнай музычнай творчасці.

У 1991 годзе ў першы дзень путчу і стварэння ГКЧП да мяне прыехалі хлопцы з «Рокіс». Я нешта спрабаваў гаварыць ім пра небяспечную палітычную сітуацыю, аднак ніхто да гэтага не паставіўся сур'ёзна. Хуценька арганізавалі нейкія пасядзелкі, і яны запрасілі мяне стаць вакалістам. Мауляў, у іх ужо ёсць беларускамоўная праграма. Я пагадзіўся.

Напэўна, гэты акцэнт трэба зрабіць менавіта тут, бо падчас той сустрэчы я пазнаёміўся з чалавекам, з якім сябрую ўжо амаль чвэрць стагоддзя. Гутарка пра Зміцера Лукашука. Цудоўны, сціплы чалавек і паэт, які напісаў большасць тэкстаў «Крамы». Яго добра ведаюць па журналісцкай рабоце на «Еўрарадыё для Беларусі».

На мой погляд, ён адзін з лепшых у гэтай справе. Напэўна, у нас са Зміцерам ёсць нейкая творчая сувязь на энергетычным узроўні. Звычайна, я пішу музыку, а ён потым аздабляе яе вельмі добрымі тэкстамі. Думаю, адно з тлумачэнняў поспеху «Крамы» якраз у гэтым і ёсць. Ён мне як брат.

Аднак вернемся ў жнівень 1991 года. Праз пару дзён пасля сустрэчы ў Баранавічах я прыехаў у Мінск на рэпетыцыю «Рокіс», паслухаў іх песні. Не скажу, што яны мне моцна спадабаліся і надта пасавалі да майго голасу. Перарабілі. Запісалі дыск з галоўнай песняй «Пагоня» на вершы Максіма Багдановіча. Паводле песні «Народжаны тут» на вуліцы Кастрычніцкай вуліцы знялі кліп.

І зноў я ўбачыў, што тут нешта не тое. На той час у мяне былі напісаны песні, якія я даў Лукашуку, каб той зрабіў тэксты. Сам я, на жаль, не паэт, таму звычайна пішу толькі «рыбу». То бок выкладаю сэнс таго, пра што мая музыка.

Калі гэта было зроблена як след, яны самі ўбачылі, што мае песні значна лепшыя за тыя, што былі раней. Раней яны нагадвалі нейкі канструктар, не было цэльнасці, агульнай ідэі. І нават свайго стылю.

Неўзабаве пачалі граць толькі тое, што я пісаў. Выказаў патрэбы змяніць канцэпцыю і назву. У адказ прагучала, што ўжо ўсе ведаюць «Рокіс», з чым

> **Першыя песні былі на вершы Бернса і байкі Кандрата Крапівы. Хутчэй за ўсё, з гэтага і пачалася мая любоў да беларускай мовы. Я зразумеў, што можна спяваць па-беларуску пад музыку, якая мне падабаецца**

я кардынальна не пагадзіўся і сказаў: «Не хвалюйцеся, праз месяц-два ўсе будуць ведаць новую назву не менш першапачатковай». Так яно і адбылося. Напрыканцы 1991 года з'явілася «Крама». І ў наступным годзе на «Басовішча» мы паехалі ўжо з новай назвай.

На момант гэтай размовы, калі не памыляюся, у нас ужо дзесяць альбомаў (у тым ліку і адзін канцэртны).

Зразумела, што за часы існавання гурту было шмат чаго цікавага. З'яўленне «Крамы» супала з распадам Савецкага Саюза, з вяртаннем гістарычнай сімволікі і юрыдычнай незалежнасцю Беларусі. Тады (як і падчас перабудовы) было шмат ідэй і творчай энергіі. Нягледзячы на тое, што абодва перыяды былі дастаткова цяжкімі (так адбываецца заўсёды), аднак не гэта самае галоўнае. Не заўсёды, але менавіта ў цяжкія часы і з'яўляецца сапраўднае мастацтва.

Напэўна, яно ёсць і зараз, але раней было больш шчырага імпэту, жадання зрабіць адразу ўсё. І трэба сказаць, многае атрымлівалася. Аб чым сведчыць і першая рок-карона ў 1994 годзе, і перамога на конкурсе ў Маскве. Усё гэта давала штуршок для наступных працаў, новых пошукаў.

### Крама выпрабаванняў

Уздым працягваўся да 1996 года, калі забаранілі кліп «Гомельскі вальс» і не аддалі нам запіс канцэрта, які адбыўся на пяцігоддзе «Крамы» ў Палацы прафсаюзаў. Нават не ведаю, ці захаваўся ён увогуле.

Потым нас паціху пачалася інфармацыйная блакада, якая вылілася ў першую забарону. Прынцып добра вядомы: калі гурту няма на сцэне і ў эфіры некалькі гадоў, пра яго пачынаюць пакрыху забываць.

Потым нас «разбаранілі» і зноў забаранілі. Нечым гэта нагадвае вялацякучую форму адной непрыстойнай хваробы.

Першая забарона звязана з тым, што скончыліся першыя (выбачайце за таўталогію) 10 гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі. Як вядома, у парку «Дружбы народаў», які знаходзіцца ля сумнавядомай плошчы Бангалор, з гэтай нагоды адбыўся пратэстны канцэрт. Нас туды не запрасілі, але на гіпатэтычнае пытанне наконт таго, што было б у выпадку наяўнасці запрашэння, я адказваў станоўча. І «Крама» патрапіла пад раздачу.

Як кажуць дыпламаты, да 2007 года мы былі персонамі нон-грата. Увесь гэты час ездзілі на канцэрты ў Польшчу, калі там у нейкім горадзе праходзілі апазіцыйныя мерапрыемствы. Плюс «Басовішча». Гэта крыху падтрымлівала, бо ў Беларусі ніякай працы для нас не было.

Калі забарону знялі, мы адразу запісалі альбом «Усё жыццё дзіўны сон».

Другая забарона адбылася пасля падзей 2010 года. Канешне, больш за ўсіх дасталася Зміцеру Вайцюшкевічу, але аўтаматычна хапіла і ўсім, каго ўлады не лічаць сваімі.

Не святкавалі ні маё 50-годдзе, ні 20 гадоў існавання «Крамы». Памятаю, тады да нас з Расіі прыязджаў Мікалай Аруцюнаў, якога называюць бацькам расійскага блюзу, і на невялічкіх канцэртах нас віншаваў. Гэта была вельмі патрэбная падтрымка. Разам мы выканалі з дзясятак песняў і запісалі альбом «Live in Minsk». Назва агульнага гурта «Blues Barbarians».

Зараз зноў лібералізацыя — і праз сем гадоў пасля папярэдняга мы прэзентавалі альбом «Белая вада». Вядомы музычны журналіст, крытык і стваральнік «Тузіна гітоў» Сяргей Будкін назваў яго вандроўкай па нашай творчасці. Магчыма, так яно і ёсць.

Цяпер нас у чарговы раз «разбаранілі», але вялікага жадання займацца палітыкай (у беларускім разуменні) у мяне больш няма. Кожны павінен займацца сваёй справай. Я — музыкант, а палітыкай хай больш клапоцяцца тыя, хто ёй займаецца прафесійна. Такое ўражанне, што яны банальна нас выкарыстоўваюць у сваіх мэтах. І не больш.

Гэта не азначае, што я не цікаўлюся тым, што адбываецца вакол. Наадварот. Прынцыпова веру ў тое, што змены ў нашым жыцці абавязкова адбудуцца. Іншая справа, якімі яны будуць. Мне б хацелася, каб яны былі бел-чырвона-белага колеру.



# Моладзь прыдумвала нацыянальны брэнд


Юрась Губарэвіч у школе Руху «За свабоду»

Цімох КАЗЛОЎСКІ

**Напрыканцы жніўня ў Троках прайшла традыцыйная Летняя школа Руху «За Свабоду». Сёлета галоўнай тэмай стаў «Нацыянальны брэнд Беларусі».**

У школе навучаліся больш за 20 чалавек ад 18 да 30 гадоў з 15 гарадоў Беларусі. Па выніках удзельнікі стварылі брэндавыя рэпрэзентатыўныя прома-ролікі для кожнай вобласці краіны, у якіх выявілі іх сучасныя і гістарычныя адметнасці і міфы, выкарыстаўшы досвед і веды, атрыманыя цягам тыднёвага навучання. Пераможцамі, якіх узнагародзіў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, сталіся каманды Гродна і Гомелю. Неўзабаве ролікі пераможцаў можна будзе ўбачыць на сайце.

Моладзь спалучыла адпачынак і навучанне. Гатэльны катэдж, стылізаваны пад Палацавы комплекс, мясціўся ў лесе на беразе возера. У перапынках


Валярына Кустава у Летняй школе «Руху За свабоду»

між навучаннем, удзельнікі каталіся на роварах і чоўнах. Таксама для слухачоў школы быў арганізаваны візіт у мэрыю Трокаў, а ў Вільні адбылася экскурсія ў музей ахвяраў сталінізму і па беларускіх мясцінах літоўскай сталіцы, якую правёў мясцовы беларус Кірыл Атаманчык.

«Мэта школы — абмеркаваць складнікі брэнда Беларусі, выпрацаваць шляхі фармавання пазітыўнага вобразу Беларусі сярод замежнікаў і саміх беларусаў, прааналізаваць прыклады выкарыстання нацыянальных адметнасцяў як паспяховых маркетынгавых крокаў», — адзначыў Алесь Лагвінец, дырэктар Школы, намеснік старшыні Руху «За Свабоду».

«Школа Руху «За Свабоду» ў гэтым годзе была прысвечаная вобразу Беларусі ў свеце. Разбіраліся, што фармуе «брэнд» краіны, як яго можна змяняць, на што ўплывае імідж у міжнародных стасунках, развіцці турызму, прыцягненні інвестыцый ды проста ў чалавечых адносінах. Выкладчыкі сёлета былі проста зоркамі і самі па сабе «брэндамі». Асабліва цешыць, што сярод іх былі ўдзельнікі папярэдніх школаў — паэтка і свецкая львіца Валярына Кустава, актывіст і валанцёр Андрэй Стрыжак, а таксама рэдактар інтэрнэт часопіса «Ідэя» Рыгор Астапеня. Мы хацелі, каб удзельнікі гэтага года, неверагодна цікавыя і актыўныя маладыя людзі, задумаліся над брэндам Беларусі, бліжэй пазнаёміліся з выкладчыкамі — зоркамі беларускай журналістыкі, гісторыі, турызму, і разам пачалі працаваць над удасканаленнем іміджу нашай краіны. І выглядае на тое, што ў нас атрымалася», — распавяла Вераніка Мазуркевіч, адна з арганізатарак і куратар школы.

«У школе выступалі асобы, якія прадстаўлялі незалежнае меркаванне з розных ракурсаў. Больш за ўсё ўразілі выклады Андрэя Лянкевіча, Марыны Бароўкі, Змітра Карэнкі, Франака Вячоркі, Валярыны Куставай, Аляксандра Класкоўскага, Андрэя Стрыжака, а таксама выкладнікаў з Нямеччыны, Літвы і ЗША, — распавёў Станіслаў Стэсік, удзельнік школы. — Таксама школа дала добрыя практычныя веды. Цяжка, напрыклад, вытлумачыць, як працаваць з медыямі, калі гэта не паказаць на прыкладзе. А нам акурат усё паказвалі і самім прапаноўвалі папрактыкавацца! Калі хтосьці кажа, што беларуская моладзь абыякавая, то гэтая школа — паказчык таго, што мы хочам працаваць, атрымліваць веды, прабівацца наперад — дзеля сябе і сваёй краіны!»

Увечары 29 жніўня, калі ўдзельнікі школы вярталіся дадому, на літоўска-беларускай мяжы быў зладжаны пільны дагляд дакументаў усіх прысутных — асабліва службовыя асобы цікавіліся матэрыяламі навучальнай праграмы школы. Пасля амаль 2-гадзіннага дагляду аўтобус прапусцілі на Мінск.

«Улада перастрахоўваецца. Адукацыйныя курсы для моладзі ўяўляюць наўпроставую пагрозу, толькі калі разглядаць іх як выклік дзяржаўнай сістэме ідэалогіі і прапаганды. Мы вучым моладзь быць прагнай да новых ведаў, аналізаваць і самастойнага мысліць. Такія грамадзяне ствараюць нязручнасці ўладзе, бо не стануць успрымаць усё наверсе і задаюць нязручныя пытанні», — пракаментаваў затрыманне аўтобуса Юрась Губарэвіч.

**Фота Аляксея Піскуна і Змітра Карэнкі**

ЛІСТ У НУМАР

# Нацыянальная ідэя Каліноўскага

**Адэпты ідэалогіі неазаходнерусізму актыўна пашыраюць тэзу пра тое, што Кастусь Каліноўскі — не нацыянальны герой Беларусі, а польскі бандыт, які тэрарызаваў Паўночна-Заходні край.**

Што казаць, калі ўжо нават беларускія даследчыкі падзей паўстання 1863 года, якія зусім далёкія ад ідэалогіі заходнерусізму, заяўляюць: «Каліноўскі не змагаўся за Беларусь, і ніякі ён не нацыянальны герой».

Аднак факты гавораць пра іншае. Вялікі ўплыў на светапогляд Кастуся Каліноўскага падчас яго вучобы ў Пецярбургскім універсітэце аказала ідэалогія народніцтва, ідэі Герцэна і Бакуніна, якія выразна прызнавалі права за зняволенымі народамі Расійскай імперыі, у тым ліку і за беларусамі, на самастойнасць у федэрацыйнай лучнасці між сабой, або і права на поўную незалежнасць.

Каліноўскі быў першым беларускім народнікам, які будзіў народ беларускі, пасля яго доўгай спячкі ў нявола палітычнай і сацыяльнай. Але ў яго не было разумення Беларусі ў сучасным сэнсе гэтага слова. Каліноўскі разумеў беларускую справу настолькі, наколькі разумець яе дазвалялі яму тагачасныя ідэйныя кірункі і сацыяльна-палітычнае палажэнне беларускага народа. Але Каліноўскі ўсведамляў нацыянальную асобнасць беларусаў, што было вялікім прагрэсам у грамадска-палітычнай думцы таго часу.

Ён не пакінуў пісьмова дакументальнай сістэмы сваіх федарацыйных поглядаў, бо занадта хутка расстаўся з гэтым светам, дый крывавыя падзеі студзеньскага паўстання развіваліся з неверагоднай хуткасцю, каб ён змог дакументальна занатаваць сістэму федэрацыі ВКЛ з Польшчай. Але аб федэралізме Каліноўскага мы даведваемся ад блізкіх да часу і яго асобы гісторыкаў. Напрыклад, генерал-маёр В. Ф. Ратч у сваіх «Сведениях» напісаў: «...Калиновский, который вовсе не был расположен работать для Польши и в случае общего освобождения шляхетства, если в Польше воскреснет древнее магнатство со всеми шляхетными традициями, с натяжкою приспособленными к XIX в., видеть Литву втянутою в тот же омут. Калиновский опасался того слияния с Польшею, при котором потом от неё нельзя было бы и отделаться. Он хотел видеть Литву не с возобновленными на новый лад старыми шляхетскими традициями, но Литву, которую он мог бы пересоздать с всеобщим уравнением прав и состояний, на новых началах коммунистических бредней, проповедуемых Герценом и К, находя даже, что галицийская резня недостаточна, чтобы избавить народ от всякого влияния шляхетства, которого и подрастающее потомство может воскресить со временем настоящие».

Такія радыкальныя погляды Каліноўскага вельмі палохалі буйных землеўладальнікаў, якія справядліва заўважалі, што, у адрозненні ад монанацыянальнага Царства Польскага, у ВКЛ шляхта была адзіным носьбітам польскай самасвядомасці, і выпады Каліноўскага супраць шляхты азначалі адначасова змаганне супраць польскага элементу ў краі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць погляды Каліноўскага на Расію і рускіх увогуле і трансфармацыя гэтых поглядаў у часе паўстання.

Напярэдадні выбуху паўстання Каліноўскі бачыў саюзніка не толькі ў прыгнечаных народах царскай Расіі, але і ў перадавых сілах рускага народа. У пацверджанне гэтаму чытаем у падпольнай газеце «Хоронгев Свободы»: «Народ маскоўскі скланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам нам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм».

Але пад уражаннем пачварнай дзейнасці Мураўёва-вешальніка і таго, што большая частка рускага народа ўспрыняла жорсткае падаўленне паўстання як патрыятычную дзейнасць, а таксама тое, што сялянская Расія не паўстала разам з землямі колішняй Рэчы Паспалітай, Каліноўскі прыходзіць да песімістычных высноў адносна рускага народа, што можна заўважыць у «Лістах з-пад шыбеніцы»: «Не будзем гаварыці, з якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там не многа найдзеш, няволя манголаў да і цароў маскоўскіх заўсім забіла ў гэтым народзе ўсякую памяць а свабодзе, да і зрабіла з яго грамады людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення, да і без баязні Боскай. З гэтакім народам цары маскоўскія, што жывуць людскою крыўдаю, падбілі зямлю нашу пад сваё панаванне, тут то мы іх і пазналі, гэтых, як яны сабе называюць, братоў нашых».

Праціўнікі дзейнасці Каліноўскага любяць распавядаць байкі пра тое, што той нібыта і не беларус зусім, а польскі рэвалюцыйны дзеяч. Аднак, па-першае, малаважна, колькі беларускай, а колькі польскай крыві цякло ў жылах Каліноўскага, бо для дабра Беларусі ён зрабіў вельмі шмат. А па-другое, само светаўспрыманне Кастуся дае нам усе падставы лічыць яго беларускім нацыянальным героем.

За гэта гаворыць і тое, што свае «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастусь Каліноўскі напісаў па-беларуску і звернуты яны да беларусаў. Гэта перадсмяротныя лісты, а чалавеку, асуджанаму на смерць, няма сэнсу крывіць душой, у такія часы чалавек з'яўляецца найбольш шчырым.

Кастусь Каліноўскі загінуў на шыбеніцы за справу адраджэння сваёй Бацькаўшчыны. Яго грамадска-палітычная дзейнасць заклала падмурак у будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы.

**Максім Бажок**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1150

Падпісана да друку 4.09.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.